ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 8 (2534)
ПЯТНІЦА
19
лютага 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

23 ЛЮТАГА—ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ

## АБАРОНЦАМ РАДЗІМЫ—СЛАВА!





Кінаархівы краіны захоўваюць 3,5 мільёнаў метраў стужкі з дакументальнымі здымкамі вайны—плён герагічнай, самаахвярнай працы 243 аператараў, якія вельмі часта выконвалі свой абавязак кіналетапісцаў пад агнём праціўніка, у акопах пярэдняга краю, у кабіне самалёта-бамбардзіроўшчыка або на борце атакуючага тарпеднага кацера...

Першым аб'ектам увагі, на які было скіравана вока кінакамеры, заўсёды быў чалавек з ружжом, савецкі салдат, адданы і вынаходлівы, пяшчотны і справядлівы, шчыры, сумленны. Яго мы бачым на буйных і агульных планах большасці з тых мільёнаў метраў стужкі. Мінаюць гады, а ён жыве—кідаецца ў атаку, уступае ў паядынак з танкам, штурмуе паверх за паверхам дом, падае пад куляй, чытае лісты з роднай вёскі, дэсантуецца ў тыл ворага...

Рэжысёр аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» Барыс Саракатунаў па сваім сцэнарыі зрабіў дакументальны фільм «Бронзавы салдат», куды ўвайшлі кадры ваеннай пары, асэнсаваныя ў ярка перададзеным тэматычным ключы, ад якога і назва стужкі—подзвіг радавога салдата на вайне.

Вы бачыце кадры з новага фільма творчага аб'яднання «Летапіс». Рэцэнзію чытайце на стар. 8.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

З мэтай найбольш поўнага задавальнення духоўных патрэбнасцей народа забяспечыць далейшае развіццё друку, тэлебачання, радыё, літаратуры і мастацтва, умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў культуры. Палепшыць якасць радыёперадач і тэлевізійных перадач.

Прадугледзець далейшае павелічэнне выпуску кніг, тыражоў газет і часопісаў, забяспечыўшы далейшае паляпшэнне іх афармлення і тэматыкі, развіваць сетку кінатэатраў і кінаўстановак.

Забяспечыць укараненне ў паліграфічную прамысловасць і кінапрамысловасць навейшага абсталявання, новых матэрыялаў, паперы, кінаплёнкі.

Звярнуць асаблівую ўвагу на ўдасканаленне сістэмы культурнага абслугоўвання

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

**13 лютага 1971 года адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.**

**Пленум ЦК КПБ прыняў пастанову аб унясенні на абмеркаванне XXVII з'езда КП Беларусі пытання «Аб праекце Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады». Дакладчык — Старшыня Савета Міністраў БССР тав. КІСЯЛЁЎ Ц. Я.**

**У сувязі з маючым адбыцца абмеркаваннем на з'ездзе КПБ праекта Дырэктыў па пяцігадовым плане пленум ЦК КПБ вырашыў перанесці дату склікання XXVII з'езда КП Беларусі на 22 лютага 1971 года.**

Іван ШАМЯКІН

# ДУМКІ ПЕРАД З'ЕЗДАМ

Праз тры дні камуністы Савецкай Беларусі пачнуць свой XXVII з'езд.

З'езды партыі — гэта прадстаўнічыя форумы для сур'ёзнага, грунтоўнага, дзелавога абмеркавання важнейшых пытанняў жыцця партыі і краіны, для падвядзення вынікаў і выпрацоўкі новых планаў, новых дырэктыў па ўсіх аспектах унутранага і міжнароднага жыцця.

Даўно ўжо стала традыцыяй, што савецкія людзі ўспрымаюць з'езды ленінскай партыі, як урачыстасць, як свята. І гэта натуральна. З'езды партыі, якая прысвячае ўсю сваю дзейнасць клопатам пра мір і шчасце народа, якая вядзе наперад ад перамогі да перамогі, як бы ўзводзяць усіх нас, членаў партыі і беспартыйных працаўнікоў, на новую вышыню, на новы рубеж. З гэтай вышыні адкрываецца той шлях, які пройдзены, і гэтак жа шырока і далёка праглядваецца дарога, па якой належыць пайсці заўтра, відны ўсе вяршыні, якія трэба будзе браць працоўным штурмам. Радасная гэтая мірная дарога! Аззяючыя на сонцы вышыні не палохаюць, а натхняюць, нараджаюць энтузіязм, узнімаюць бадзёрасць і радасць.

Вышыні гэтыя — толькі што апублікаваны праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па новым пяцігадовым плане.

Я чытаў праект, як паэму. Амаль кожнае палажэнне, кожная лічба наводзіць нашага брата, пісьменніка, на глыбокі роздум, на абагульненні і адначасна вобразную канкрэтызацыю — пераносіць гэтыя лічбы на жыццё людзей, герояў нашых кніг, п'ес, сцэнарыяў, на параўнанні з мінулым, на асэнсаванне сучаснасці і на ўяўленне таго, якім будзе жыццё людзей у бліжэйшым будучым і як адпаведна зменіцца іх псіхалогія. Я ўпэўнены, што не аднаго мяне, але, бадай, кожнага з маіх калег Дырэктывы прымусілі задумацца над вобразамі нашых твораў, якія з'явяцца на гэтым новым гістарычным рубяжы камуністычнага будаўніцтва — пасля XXIV з'езда КПСС.

Даволі прыгадаць, што гаворыцца ў Дырэктывах пра **галоўную задачу** пяцігодкі. Яна **«заключаецца ў тым, каб забяспечыць значны ўздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа на аснове высокіх тэмпаў развіцця сацыялістычнай вытворчасці, павышэння яе эфектыўнасці, навукова-тэхнічнага прагрэсу і паскарэння росту прадукцыйнасці працы»**. (Падкрэслена ў праекце Дырэктыў).

Бясконца многа можна пісаць пра тое, што зроблена ў мінулую пяцігодку, заданні якой перавыкананы. Яшчэ больш — пра тое, што будзе рабіцца ў новай пяцігодцы, як гэта зменіць і аблічча зямлі, і псіхалогію людзей. Але ў сувязі з роздумам над праектам Дырэктыў, мне прыгадваецца самае блізкае — Дні літаратуры на Магілёўшчыне, якія мы правялі на тым тыдні. Нехта можа здзівіцца: што да чаго? Якое дачыненне да пяцігадовага плана маюць літаратурныя выступленні дваццаці пісьменнікаў? Дачыненне маюць нашы ўражанні, сустрэчы з людзьмі, усё тое, што мы ўбачылі і пачулі. Прызнаюся, трошкі рабілася нават няёмка, як мае калегі ахалі пасля агляду лаўсанавага камбіната: «Ды гэта ж прадпрыемства будучага! Такое нават усвядоміць цяжка!».

Няёмка было ад таго, што большасць з нас толькі ў сувязі з Днямі літаратуры здолелі пазнаёміцца з гэтым цудам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

Жыццё калгаснай вёскі — без выхвалення кажу — я ведаў. Але і там на гэты раз я адчуў сябе ніякавата. За два-тры гады, калі пісаў на гісторыка-рэвалюцыйныя тэмы, мае ўяўленні пра вёску адсталі. Але я перажыў незабыўныя хвіліны радасці і ўзнёсласці, гонару за маю партыю, калі ў далёкіх сёлах Слаўгарадчыны і Быхаўшчыны глядзеў у твары калгаснікаў, школьнікаў, на іх вопратку, на тое, як яны раскуплялі кнігі і шкадавалі, што кніжак на ўсіх не хапала. Уразіла нават такая дэталь. Я помню, як раней у калгасах збіраліся на розныя сходы, лекцыі, даклады. У калгасе імя Максіма Горкага Слаўгарадскага раёна сустрэча была прызначана на дванаццаць дня, мы прыехалі за пятнаццаць мінут, і я ахнуў: клуб быў паўнюткі, палавіна людзей стаяла і выстаяла паўтары гадзіны, пакуль выступалі пісьменнікі. Думаю, гэтыя дэталі красамоўна сведчаць пра тыя зрухі, якія адбыліся ў псіхалогіі калгасніка, у яго культурных патрэбах.

Калгас імя Куйбышава Слаўгарадскага раёна пакуль што самы звычайны, сярэдні. Але вось што адбылося ў ім за апошнюю пяцігодку: у 1965 годзе — ураджайнасць была 5 цэнтнераў з гектара, у 1970 — ужо 25, рост у пяць разоў. Вытворчасць малака вырасла таксама амаль у пяць разоў. На сустрэчы нам назвалі некаторыя лічбы дабрабыту і культуры: у калгаснікаў больш ста матацыклаў і... 330 тэлевізараў. Дальбог, мяне нават спалохала такая колькасць тэлевізараў. А ці будуць чытаць літаратуру пасля такога насычэння тэлевізарамі? Ва ўсякім разе, яшчэ мацней пацвердзілася думка аб неабходнасці нам, пісьменнікам, разам з работнікамі тэлебачання шукаць новыя формы тэлевізійнай прапаганды літаратуры.

Ды хіба толькі гэтыя, тыпова прафесійныя думкі ўзніклі ў мяне, як, напэўна, і ў кожнага з маіх сяброў, у выніку гэтых цікавых сустрэч? У час сустрэчы з воінамі мы пазнаёміліся з людзьмі і тэхнікай, якая стаіць на варце нашай мірнай працы. І гэта быў як бы падагульняючы і самы ўдарны акорд у радаснай сімфоніі багатых уражанняў, якія дала кожнаму з нас паездка толькі па адной вобласці нашай рэспублікі, праслаўленай на ўвесь свет ратнымі і працоўнымі подзвігамі народа, імя якому — беларусы, народа, што заўсёды быў верны ленінскім ідэям, які ўпэўнена ішоў і далей пойдзе па шляху, азораным святлом гэтых ідэй, за роднай партыяй.

З такімі думкамі пра вынікі восьмай пяцігодкі, пра Дырэктывы па новым пяцігадовым плане, пра самую апошнюю паездку і сустрэчы з людзьмі, пра свой пісьменніцкі партыйны абавязак — іду я, дэлегат, на XXVII з'езд Камуністычнай партыі Беларусі.

Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ВЕЛІЧНЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

ЦЭНТРАЛЬНЫ Камітэт нашай партыі абвясціў для ўсенароднага абмеркавання праект дырэктыў па дзевятай пяцігодцы. Як галоўную задачу дырэктывы фармулююць новы значны ўздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа. Падмуркам для гэтага ўздыму, моцнай апорай стануць яшчэ больш высокія тэмпы развіцця сацыялістычнай вытворчасці, навукова-тэхнічны прагрэс і паскарэнне росту прадукцыйнасці працы.

Праца на карысць народа — што можа быць больш радасным, больш пачэсным! І калі гэтая праца навукова арганізавана, тэхнічна забяспечана, яна прыносіць не толькі матэрыяльнае, але і маральнае задавальненне. Праца, памножаная на веды — практычныя і тэарэтычныя — складае галоўны клопат нашага сучасніка. І яго, няўрымслівага ў імкненні да ведаў, хацелася б часцей сустракаць у творах мастацкай літаратуры.

На XXIV з'ездзе партыі сярод іншых пасланцоў ад камуністычнай арганізацыі Беларусі будзе і камбайнер саўгаса «Канстанцінава», што на Мядзельшчыне, Эдуард Ціхі. Пятнаццаць гадоў трымае ён стырно палявога карабля і за высокую працавітасць носіць званне Героя Сацыялістычнай Працы. Яго працавітасць вымяраецца не столькі гектарамі ўбранай плошчы і цэнтнерамі сабранага ўраджаю, колькі бескарыслівым імкненнем навучыць так працаваць іншых. Не зважаючы на гады, Эдуард Ціхі вучыцца завочна ў інстытуце і паспявае вучыць другіх — ён на чале саўгаснай школы камбайнераў рыхтуе вартую сабе змену. Новыя вышыні на працоўным фронце сёння не заваюеш без глыбокага ведання сваёй справы.

Камуніст з Мядзельшчыны, хлебароб Эдуард Ціхі прагаласуе на з'ездзе за новы пяцігадовы план як упаўнаважаны працавітай Беларусі. Планы 1971 — 1975 гадоў — планы нашай партыі — планы народа. За іх выкананне будзе змагацца кожны працаўнік, дзе б ён ні быў — за стырном, у полі, на будоўлі, у лабараторыі. Паказаць працаўніка нашага часу ў новым стваральным парыве — адна з надзённых задач беларускай літаратуры.

КАМПАЗІТАР і сучаснасць, месца кампазітара ў сённяшнім бурлівым дні — пра гэта ішла прынцыповая і дзелавая гаворка на адкрытым партыйным сходзе, прысвечаным надыходзячаму XXIV з'езду КПСС, у Саюзе кампазітараў БССР.

Творчасць беларускіх кампазітараў сягнула далёка за межы рэспублікі. Беларускім кампазітарам ёсць чым ганарыцца, ёсць чым радавацца.

— Асабліва плённым быў для нас мінулы, 1970 год, год ленінскага юбілею, — адзначыў у сваім дакладзе старшыня праўлення Саюза Р. Шырма. — Нават простае пералічэнне твораў, якія летась упершыню прагучалі з опернай сцэны, у канцэртных залах, даюць уяўленне аб сапраўдным размаху і глыбіні кампазітарскай думкі, аб багацці нашай сённяшняй музычнай культуры. У нас значныя дасягненні ў сімфанічным і вакальна-сімфанічным жанрах. У нас з'явіліся новыя оперы і балеты, інструментальныя канцэрты, песні і хоры.

Дакладчык называе кампазітараў, якія сустрэлі ленінскі юбілей новымі змястоўнымі творамі. Гэта — Л. Абеліёвіч, М. Аладаў, Ул. Алоўнікаў, А. Багатыроў, Г. Вагнер, Я. Глебаў, Ю. Семяняка, І. Лучанок, Д. Смольскі, С. Картэс, А. Янчанка і многія іншыя.

Пераважная большасць членаў нашага кампазітарскага цэха, у тым ліку і моладзь, — падкрэслівае дакладчык, — пішуць музыку ў лепшых традыцыях рускай і савецкай музычнай класікі. Наш лозунг — народнасць. Наш дэвіз — сучаснасць. Усё лепшае ў мастацтве, музыцы — ад народа. Усё лепшае, што створана ў мастацтве, музыцы — для народа. Таму вартасць і значэнне мастацтва вызначаецца ў першую чаргу тым, наколькі яно адпавядае патрэбам часу, як служыць яно народу, дапамагае выхоўваць новага чалавека.

Р. Шырма заўважае, што ў наш век касмічных караблёў і электронна-вылічальных машын, мы шмат гаворым і пішам пра тэхнічны прагрэс. Гэта, вядома, заканамерна. Але часам мы забываем аб творцах гэтага прагрэсу, аб простых людзях, аб іх духоўным свеце, хаця выхаванне, фарміраванне гэтага свету — задача куды больш складаная, чым, скажам, стварэнне самай дасканалай машыны. Вось тут і павінен сказаць сваё слова мастак, у дадзеным выпадку — творца музыкі.

...Музыка. Як нараджаецца яна? Відаць, гэта адна з самых таямнічых загадак чалавечай сутнасці, чалавечага розуму. Ясна толькі, што нараджаецца музыка не на пустым месцы. Талент? Так. Але і талент павінен чымсьці жывіцца. І сіла тален-

УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ «ЛИТЕРАТУРНОЙ ГАЗЕТЫ» ОРДЭНАМ ЛЕНІНА

**За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўны ўдзел у камуністычным выхаванні працоўных узнагародзіць «ЛИТЕРАТУРНУЮ ГАЗЕТУ» ордэнам ЛЕНІНА.**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ПАДГОРНЫ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.**

Масква, Крэмль,
15 лютага 1971 г.

насельніцтва, завяршыць ў асноўным стварэнне дамоў культуры ў раённых цэнтрах і культурна-асветных устаноў ва ўсіх буйных населеных пунктах.

Палепшыць забяспячэнне кваліфікаванымі кадрамі культурна-асветных устаноў і ўстаноў мастацтва, павысіць іх ролю ў грамадска-палітычным жыцці і арганізацыі вольнага часу насельніцтва.

*(З праекта ЦК КПСС «Дырэктывы XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады»).*

# НАШ ЛОЗУНГ— СУЧАСНАСЦЬ, НАШ ДЭВІЗ— НАРОДНАСЦЬ

*Партыйны сход у Саюзе кампазітараў БССР*

ту, як і сіла Антэя, у сувязі з зямлёй. Мастак не можа ствараць па-сапраўднаму, не будучы ўвесь час у самай гушчыні жыцця, не адгукаючыся на ўсё, што хвалюе яго сучаснікаў.

Павінна існаваць нейкая ўнутраная струна, унутраны камертон (не флюгер — камертон), чуйна настроеныя на тое, што адбываецца ў жыцці. А настройка гэта — ад грамадскай пазіцыі мастака, ад яго сумлення, пачуцця адказнасці перад радзімай, перад партыяй.

Пра гэта шмат гаварылася і ў дакладзе, і ў спрэчках. Называлася імя кампазітара Уладзіміра Алоўнікава, які ў апошні час напісаў некалькі ўдалых твораў на рабочую тэматыку. Папярэднічала гэтаму настойлівае вывучэнне жыцця аднаго з заводскіх калектываў сталіцы. І ў той жа час у творчасці некаторых кампазітараў можна наглядаць пэўную страту пачуцця злабадзённасці, сучаснасці. На гэта звярнуў увагу ў сваім выступленні на сходзе намеснік міністра культуры рэспублікі Ю. Міхневіч. Ён пералічыў пяць ці шэсць буйных музычных твораў, на якія з Міністэрствам культуры БССР падпісаны дагаворы, і з іх толькі адзін ці два звязаны з барацьбой, змаганнем, стваральнай працай савецкіх людзей.

Было б, мабыць, смешна вызначаць кожнаму кампазітару кола тэм, на якія ён павінен ствараць музыку. Але павінна існаваць нейкае пачуццё меры. Відаць, ніхто б не зразумеў кампазітара Аляксандрава, які б у трывожныя дні сорак першага ўзяўся не за «Свяшчэнную вайну», а, скажам, за аперэтку з жыцця маркізаў.

Калі з творчасці таго ці іншага мастака раптам пачынаюць выпадаць матывы сучаснасці. сучаснасці ў шырокім разуменні гэтага слова (бо Айчынная вайна — гэта таксама сучасная тэма), гэта не можа застацца незаўважаным.

Сакратар партыйнай арганізацыі саюза А. Ракава прывяла такі прыклад. Нядаўна з Масквы прыязджаў прадстаўнік праўлення Саюза кампазітараў СССР, які хацеў выбраць некалькі твораў на ваенна-патрыятычную тэму. Але, на жаль, значных новых твораў, твораў высока-мастацкіх, высокага патрыятычнага гучання, аказалася ў беларускіх кампазітараў мала.

У дакладзе і многіх выступленнях падкрэслівалася, што ў нас ствараецца вельмі мала добрай музыкі для дзяцей і юнацтва. Але прырода, як кажуць, не церпіць вакуума. У клубах, на танцпляцоўках, бывае, гучыць нізкапробная музыка, юнакі і дзяўчаты спяваюць песні вельмі сумніцельнага паходжання. Наогул, музычнае, эстэтычнае выхаванне падрастаючага пакалення аддаецца, бывае, на водкуп выпадковым людзям. К. Цесакоў расказаў, што ў буйнейшым рэспубліканскім піянерскім лагеры, як яго называюць «беларускім Артэку», музычны кіраўнік — чалавек, які не мае і пачатковай музычнай адукацыі. Тым не менш, дзеці спяваюць песні яго сачынення, песні нікуды не вартыя па мастацкіх вартасцях.

Кампазітар закончыў новы твор. Вось тут, мабыць, пачынаецца сапраўднае хваляванне. Як успрымуць новы твор слухачы? І наогул, які ён, гэты шлях ад творчай майстэрні да канцэртнай залы? Па ідэі, «дабро» ў свет павінен даць саюз. З гэтай мэтай тут праводзяцца праслухоўванні і абмеркаванні новых музычных твораў. Але ці ўсіх? На жаль, не. Пра гэта гаварылі ў сваіх выступленнях музыказнаўцы А. Ракава і В. Сізко. Звычайна такія абмеркаванні адбываюцца на музычных «серадах», але выконваюцца на іх, як правіла, творы малых форм — песні, інструментальныя п'есы. Творы ж буйных жанраў застаюцца па-за ўвагай. Так амаль ніводнага разу на «серадах» не гучала харавая музыка, не кажучы ўжо пра сімфанічную. Амаль ніколі ў саюзе не абмяркоўваюцца лібрэта опер і балетаў.

Вялікая размова на сходзе зайшла аб стане музычнай крытыкі. На крытыцы ляжыць вялікая адказнасць. Па сутнасці, яна фарміруе грамадскую думку.

— Мэта крытыкі — дапамагчы кампазітару, сказаць яму праўду, — заўважыў Ю. Міхневіч. — Але пры любых умовах крытыка павінна быць таварыская і добразычлівая. Хацелася б, каб, прад'яўляючы сур'ёзныя патрабаванні да таго ці іншага твора, крытыкі ўмелі б парадавацца кожнай новай рабоце.

Пра гэта гаварыла і музыказнаўца Л. Мухарынская, якая не пагадзілася са шмат якімі аспектамі рэцэнзіі Т. Шчарбаковай на оперу Ю. Семянякі «Зорка Венера» ў газеце «Літаратура і мастацтва».

Л. Мухарынская заўважыла, што не падзяляе адмоўных адносін крытыкі і да оперы М. Аладава «Андрэй Касценя», што опера гэтая ў многім заслугоўвае станоўчай ацэнкі.

Шмат гаварылася на сходзе аб папулярызацыі беларускай музыкі.

— Нядаўна мне давялося пабываць на педагагічнай канферэнцыі Фрунзенскага раёна сталіцы, — расказала В. Сізко. — Тэма канферэнцыі была вельмі цікавая: «Роля музыкі ў камуністычным выхаванні моладзі». Але ў час гутаркі з настаўнікамі, а гэта былі школьныя настаўнікі спеваў, высветлілася, што яны вельмі слаба ведаюць беларускую музыку.

Былі выказаны папрокі ў адрас тэлебачання, радыё, якія пакуль што слаба папулярызуюць беларускае музычнае мастацтва.

Многа магла зрабіць у гэтым напрамку і музычная рэдакцыя выдавецтва «Беларусь».

— Зараз рыхтуецца серыя манаграфій аб творчасці беларускіх кампазітараў, — гаворыць К. Цесакоў. — Некалькі манаграфій ужо ўбачыла свет. На жаль, не ўсе яны высокай якасці. У прыватнасці, пакідае жадаць лепшага стылістыка, мова гэтых работ. Прамоўца — а ён працуе ў выдавецтве — скардзіўся на інертнасць некаторых кампазітараў, якіх літаральна трэба ўпрошваць публікавацца.

На сходзе ішла гаворка і пра многія іншыя пытанні жыцця і творчасці кампазітараў рэспублікі, у прыватнасці, аб падрыхтоўцы да шостага кампазітарскага з'езда.

Удзельнікі сходу прынялі рэзалюцыю, якая падкрэсліла неадольнае імкненне беларускіх кампазітараў разам з усім народам дастойна сустрэць XXIV з'езд КПСС, парадаваць Радзіму новымі творчымі здзяйсненнямі.

М. ЗАМСКІ.

## УРУЧЭННЕ ЎЗНАГАРОД

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. О. Прытыцкі ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР уручыў 15 лютага г. г. ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга пісьменнікам І. П. Шамякіну і І. П. Мележу, узнагароджаным за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння.

І. П. Шамякін і І. П. Мележ горача падзякавалі Камуністычнай партыі і Савецкаму ўраду за высокую ацэнку іх працы.

С. О. Прытыцкі цёпла павіншаваў узнагароджаных з высокай урадавай узнагародай і пажадаў ім новых вялікіх творчых поспехаў, моцнага здароўя.

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

## А ВЫ ПАДПІСАЛІСЯ?..

**Складаная і нялёгкая гэта справа — знайсці сцяжынку да сэрца кожнага чытача, ведаць, якая газета, які часопіс яму найбольш патрэбныя. А выданняў жа—цэлае мора!.. І грамадскія распаўсюджвальнікі друку—лоцманы ў гэтым моры.**

**Маюць сваіх сяброў-распаўсюджвальнікаў і рэспубліканскія літаратурна-мастацкія выданні: часопісы «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Неман», «Бярозка», «Вясёлка», штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Энтузіязм, старанная і самаадданая праца прапагандыстаў друку даюць добрыя вынікі.**

**Даўні сябра газеты «Літаратура і мастацтва» заслужаная артыстка БССР Алена Рынковіч. Яе грамадская актыўнасць шмат паспрыяла таму, што ў калектыве акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы выпісана на 1971 год каля пяцідзесяці экземпляраў штотыднёвіка.**

**У тэатры оперы і балета шчыры прапагандыст друку—рэквізітар Зінаіда Шырынская. «Літаратура і мастацтва» мае ў гэтым калектыве 67 падпісчыкаў. А ў тэатры імя Якуба Коласа—іх трыццаць. Арганізатар падпіскі тут заслужаная артыстка рэспублікі Галіна Маркіна.**

**Варта прыгадаць і дырэктара Магілёўскай гарадской бібліятэкі Яфіма Аксёнавіча Шабуню. Пры яго актыўнай дапамозе падпіска праведзена не толькі сярод работнікаў бібліятэкі, а і сярод чытачоў. Прыклад, варты самага шырокага пераймання.**

**Апроч названых, хочацца нагадаць і яшчэ многіх добрых сяброў штотыднёвіка. Гэта і загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Касцюковіцкага райкома партыі Генадзь Лысенка, і загадчыкі Лельчыцкага і Хойніцкага раённых аддзелаў культуры Уладзімір Жогла і Ядвіга Бобрык, сакратар камсамольскай арганізацыі Мазырскага педінстытута Павел Здроб, студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзімір Адамушка і Ася Надольская, загадчык кафедры Магілёўскага педінстытута Дзмітрый Маргуноў, старшы выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Уладзімір Балоцін, бібліятэкар Мінскай сярэдняй школы № 8 Надзея Жураўская, інспектар Буда-Кашалёўскага раённага аддзела культуры Раіса Аніськова, акцёр тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску Валерый Шушкевіч, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Народная асвета» Леанід Курбека, інспектар-метадыст Міністэрства культуры БССР Мікалай Волкаў, старшая піянерважатая Мінскай сярэдняй школы № 25 Вольга Гарохава і іншыя.**

**Але такіх шчырых прапагандыстаў беларускіх літаратурна-мастацкіх выданняў можа быць значна больш. Бібліятэкі, клубы, дамы культуры, музеі, кінатэатры маюць спрыяльныя ўмовы для шырокай іх прапаганды. Дыспут, лекцыя, канцэрт мастацкай самадзейнасці ці рэпетыцыя, экскурсія па залах музея, абмеркаванне новага фільма, сустрэчы з пісьменнікамі, акцёрамі, мастакамі, кампазітарамі — усё можа быць скарыстана для таго, каб прапанаваць падпісчыкам часопісы і газету, якія асвятляюць сённяшні дзень культуры рэспублікі. Не трэба многа даводзіць, каб пераканаць, што гэтыя выданні спрыяюць творчаму росту, выхаванню густаў, пашыраюць кругагляд.**

**Чаму мы зараз пачалі гэтую гаворку! Ды таму, што падпіска прымаецца не абавязкова на «круглы» тэрмін—год, паўгода, квартал. Яе можна аформіць з любога чарговага месяца— і да канца года. І калі па недаглядзе ці па якіх іншых прычынах патрэбнае выданне своечасова не было выпісана—аформіце падпіску зараз. Тым больш, што розьнічны продаж, прынамсі, «Літаратуры і мастацтва»—абмежаваны. Зразумела, органам «Саюздруку» трэба было б павялічыць паступленне беларускіх літаратурна-мастацкіх выданняў у розніцу. Але заўсёды лепш і зручней, калі газета ці часопіс выпісаны і прыносіцца падпісчыку паштальёнам.**

**У гэтыя дні ў рэспубліцы праходзяць злёты грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку, на якіх падводзяцца вынікі падпіскі на газеты і часопісы на 1971 год. Адбыліся гэтыя злёты, напрыклад, у Ленінскім, Заводскім, Першамайскім, Савецкім і Цэнтральным раёнах Мінска. Злёты—удзячная трыбуна, дзе абменьваюцца вопытам лепшыя прапагандысты нашай перыёдыкі. І трэба, каб іх вопыт, іх высакародная грамадская работа знайшлі шырокую падтрымку ў кожным калектыве.**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» дзякуе ўсім сваім добраахвотным памочнікам — грамадскім распаўсюджвальнікам газеты. Мы спадзяёмся, што дружба наша будзе і далей мацнець, што ў нас будзе значна больш актыўных падпісчыкаў, чытачоў, аўтараў газеты.**

## ВІНШУЕМ!

*За шматгадовую работу ў друку, актыўную літаратурную дзейнасць і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў Ляўданскага Уладзіміра Аляксандравіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## Абаронцам Радзімы — слава!

П. ГАЛАВАЧОЎ

# БЯРОЗАВЫ СОК



**У аднатомніку «Вялікая Айчынная вайна Савецкага Саюза. 1941—1945. Кароткая гісторыя» ёсць радкі: «Веліч духу, мужнасць слаўных сокалаў былі бязмежныя. Лётчык-камуніст Герой Савецкага Саюза П. Я. Галавачоў, прыкрываючы нашы бамбардзіроўшчыкі на вышыні 9 тысяч метраў, тараніў варожы самалёт і здолеў даляцець да свайго аэрадрома. На наступны дзень ён працягваў паветраныя баі. За праяўленыя адвагу і гераізм П. Я. Галавачоў быў у другі раз узнагароджаны Залатой Зоркай.**

**Наш зямляк, праслаўлены ас Павел Якаўлевіч Галавачоў закончыў вайну ў дымным небе Берліна. За некальki дзён да капітуляцыі гітлераўскай Германii ён збіў яшчэ два самалёты, давёўшы баявы рахунак да 31 знішчанага варожага сцярвятніка.**

**Двойчы Герой Савецкага Саюза генерал-маёр авіяцыі П. Я. Галавачоў працягвае служыць у Ваенна-Паветраных Сілах, выхоўвае крылатых вартавых Айчыны. Зараз ён працуе над кнігай успамінаў. Прапануем чытачам урывак з гэтай кнігі. Літаратурны запіс журналіста Мікалая Грыцана.**

ПЕРШЫ мой пасляваенны прыезд у Гомель мне асабліва запомніўся. Магчыма таму, што сустрэча з горадам была незвычайнай і знамянальнай, як новая вяха ў жыцці: ад'язджаў хлапчук-аэраклубавец, а вярнуўся ўвешаны ардэнамі воін.

...Крочыў па вуліцы франтавік-капітан і не пазнаваў яе. Родны горад ляжаў у руінах. Гарачы ліпеньскі вецер выдзьмухваў пясчынкі з уцалелых сцен. Ад масіўнай Троіцкай царквы, дзе перад вайной размяшчаліся вучэбныя класы аэраклуба, застаўся адзін падмурак. На месцы ўтульных прыватных домікаў, праглынутых агнём, вырас дзядоўнік. Толькі гэтак жа, як і раней, блішчэў на сонцы паўнаводны Сож, ды па-ранейшаму шумеў смарагдавым лісцем славуты парк. Сокамі шчодрай зямлі ён таропка зацягваў раны на пасечаных снарадамі і кулямі дрэвах.

Ішоў салдат і жахаўся ад разбуральнай работы вайны, хоць бачыў ён знішчаны ўшчэнт Берлін і ўжо адчуў пачуццё задавальнення ад помсты ворагу. Адно радавала—Гомель жыў, узнімаўся з руін, адбудоўваўся нанава. Міма мчаліся машыны, даверху нагружаныя друзам. Насустрач ім ішлі грузавікі з цэглай, бетонам і лесам. Страляючы ў мяне вачыма, прайшла чародка дзяўчат з ламамі і лапатамі на плячах. «Давай, давай!»—крычаў з высокай сцяны муляр машыністу крана. У глыбокім катлаване трукатаў, як танк, шэры ад пылу бульдозер.

Ля будынка абкома партыі я мімаволі запаволіў крок. Дастаў з кішэні гімнасцёркі чырвоную кніжачку. Паказаў дзяжурнаму.

У прыёмнай сакратара абкома поўна народу. Відаць, толькі што скончылася нарада. Людзі нешта ажыўлена абмяркоўвалі, і наўрад ці хто звярнуў увагу на ўвайшоўшага лётчыка. Толькі немаладая жанчына — памочнік сакратара—прыўстала з-за стала і азадачана, цікаўна глядзела на мяне. Я нерашуча таптаўся за спінамі другіх, не адважваючыся прасіць прыёму.

— Вы да таварыша Куцака?—спытала жанчына.—Калі наконт кватэры, то ў жыладдзел. Адносна франтавікоў яму дадзены ўказанні. Пастойце, пастойце... Вы ж... Ды вось і таварыш Куцак!

З кабінета выйшаў чалавек сярэдняга росту, апрануты проста, па-рабочаму. Я адразу пазнаў яго. Нашы вочы сустрэліся. Бровы сакратара са здзіўленнем падскочылі ўверх.

— Глядзі, Паша. Ці ты?

— Я, Андрэй Авяр'янавіч.

— Ну, двойчы герой, ну, узрадаваў! З прыездам, Павел!—Куцак кінуўся ў імгненна ўтвораны праход і парывіста абняў мяне. — А які прыгожы, моцны, ладны. Ну, удружыў!—Сакратар павярнуўся да абступіўшых таварышаў:—Не прызнаеце? Гэта ж Павел Галавачоў, наш фрэзероўшчык з дрэваапрацоўчага... Марыя Антонаўна, пазваніце ў раён: прыеду пазней. Заходзь, Павел Якаўлевіч, дарагі наш госць!—і расчыніў абітыя дэрмацінам масіўныя дзверы ў кабінет.

Я глядзеў на ўсхваляванага сакратара абкома, і вострае сыноўняе пачуццё ўдзячнасці да гэтага парывістага, раптам страціўшага спакойную прадстаўнічасць чалавека гарачай хваляй напоўніла грудзі. Андрэй Авяр'янавіч быў дырэктарам Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната, калі я, сялянскі сын, там пачынаў свой рабочы шлях. Гэты дырэктар першым падтрымаў хлапчука, калі ім авалодала высокая крылатая мара. Майстар цэха пачаў быў упарціцца, не хацеў адпускаць стаханаўца-фрэзероўшчыка ў аэраклуб.

Памятаю, як я, не здолеўшы ўгаварыць майстра, пайшоў да дырэктара. Андрэй Авяр'янавіч выслухаў мяне ўважліва, з затоенай усмешкай. Потым пазваніў у цэх.

— Таварыш Карпман, я вас добра разумею,—гаварыў ён.—У нас напружаны вытворчы план. Патрэбна дакладная работа змен. І ні хвіліны прастою! Кожны чалавек на ўліку... А гэтым аэраклубаўцам падавай работу ў такую змену, каб палёты не прапускаць. Ім, канечне, не адмовіш у вучэбным водпуску, ва ўсякіх там адгулах. Але вы ж не горш за мяне разумееце: краіне патрэбны лётчыкі!

І вось цяпер, праз шэсць гадоў, мы сустрэліся—партыйны работнік і баявы афіцэр, сустрэліся як блізкія таварышы, якія вельмі засумавалі адзін па адным у доўгай разлуцы.

— Садзіся, Павел. Ды сюды, на канапу! І я побач,—завіхаўся Куцак.—Марыя Антонаўна ў нас жанчына кемлівая, так што хутка і на абед... А зараз расказвай, расказвай!

Я развёў рукамі.

— Можа пачаць з канца? Вайну закончыў у Берліне, там завяршыўся мой баявы рахунак: трыццаць адзін збіты самалёт...

— Гэта ты потым, потым. Перш скажы, як сям'я, блізкія?

Кулак мой сам сабой сціснуўся, потым расціснуўся. Рука пацягнулася да планшэткі, дзе захоўвалася атрыманае пасля вызвалення Гомельшчыны пісьмо сястры.

— Бацьку немцы закатавалі...

— Ведаю,—Куцак мякка паклаў руку на маё плячо.—Кінулі ў канцлагер, як толькі даведаліся, што гэта той самы Якаў Рыгоравіч Галавачоў, калгасны бухгалтар, які застаўся за старшыню, пераворваў пасевы лёну і збожжа, каб не дасталіся акупантам. Сапраўдны чалавек, мужны і сумленны. Землякі яго не забудуць, Паша... А што ж з астатнімі?

— Калі вызвалілі Гомельшчыну, я напісаў Ганне ў Вольск, каб вярталася ў Турышчавічы і забрала да сябе Лёньку з Мікалаем. Мачаха наша—добры чалавек, а ўсё ж хлопцам, думаў я, лепш быць з Ганнай. Так і жылі яны разам з сорак чацвёртага. А зараз не ведаю, што і прыдумаць...

— Разумею. Прызначэнне атрымаў?

— Так, у Карэла-Фінскую... З Леанідам, праўда, пытанне вырашана: ідзе ў ФЗН. А вось Колька... Яму яшчэ дзесяць гадоў.

— Уладзім у спецыяльны дзіцячы дом. Там для сірат мы стварылі ўсе ўмовы. Згодзен?

— Дзякую, Андрэй Авяр'янавіч.

— А цяпер, калі не пярэчыш, з'ездзім на камбінат. Там усё астатняе раскажаш. Усяму народу. Згодзен?

Куцак падняўся з канапы, правёў жылістай рукой па худым касцістым твары.

— Фу, спякота. Піўка б зараз, а?..

Сакратар абкома падышоў да схаванай за фіранкай шафкі і дастаў з яе пузаты жбан, дзве шклянкі. Наліў.

— Папі, Паша.

— Брагу я не п'ю, Андрэй Авяр'янавіч. Ужо калі ў гонар сустрэчы, дык чаго-небудзь мацнейшага.

Куцак усміхнуўся.

— Гэта — увечары. Ды пакаштуй!

Я ўзяў шклянку, прыгубіў. І потым пачаў піць даўкую, кісласалодкую вадкасць прагнымі глыткамі. Гэта быў квас з бярозавага соку. Павольна паставіў на паднос пустую шклянку. І раптам не стала ні прасторнага, светлага кабінета, ні яго гаспадара. Знік вулічны шум, сплылі некуды белыя воблакі за акном.

— Паша, ты што?—нібыта здалёк данёсся голас сакратара абкома.

— Даруйце. Успомнілася...

□

Бярозавым сокам я ў дзяцінстве хацеў вылячыць хворую маці.

Наша вялікая сям'я жыла на кардоне Шубіна ў густым і цёмным лесе на беразе Сожа. Лес прыцягваў нас, дзяцей, сваімі нязведанымі таямніцамі, халаднаватымі вільготнымі чашчобамі, сцежкамі, якія, здавалася, могуць завесці на край свету. Адну са сцежак я ўжо ведаў з васьмі гадоў: яна прасцяком, праз лес, вяла ў гарадок Ветка, дзе мы, дзеці лесніка, вучыліся ў школе.

Бацька працаваў на кардоне аб'ездчыкам лясніцтва. Ён быў шырокі ў касцях, каржакаваты. Ад яго пахла конскім потам, сенам і смалой. Дабрадушны і вясёлы, ён песціў дзятву. Калі бацька браў мяне ў сядло, Каця, Грыша, Толя і зусім яшчэ карапузы, Лёня з Колем, абступалі каня, скакалі і верашчалі, патрабуючы пакатаць і іх. Закілзаны Сярко, адчуваючы нацягнуты повад, пачынаў скакаць над намі.

— Разыдзіся, драбяза! Затапчу канём!

Левага вока ў бацькі не было. У семнаццатым годзе, у канцы імперыялістычнай вайны, яго цяжка параніла ў галаву. Каб дастаць кулю, хірург вымушан быў выдаліць вока.

Маці, Еўдакія Мікалаеўна, была поўнай процілегласцю бацькі: строгая, маўклівая, няўсмешлівая, яна заўсёды завіхалася ў доме. Але больш за ўсё сіл у яе адбіралі мы, шасцёра неспакойных, свавольных дзяцей.

На матчыны кухталі мы не скардзіліся: любілі маці, баяліся яе гневу і вельмі шкадавалі. Яна цяжка хварэла. Па вясне ў яе пачыналася крывахарканне, падымалася тэмпература. Губы яе трэскаліся, а шчокі загараліся ліхаманкавым румянцам. Але нават у такім стане яна знаходзіла сілы завіхацца ў доме і працаваць на агародзе. У такія дні бацька стараўся раней вярнуцца з аб'езду лесаўчастка і, мякка адсунуўшы маці ад чыгунка, прымаўся сам абіраць бульбу.

Неяк у канцы зімы настаўнік Фама Іванавіч Барсукоў чытаў нам у школе кніжку аб порах года і дарах зямлі. Я многае ўжо ведаў з таго, аб чым расказвала кніжка, ведаў, калі і дзе з'яўляюцца першыя грыбы, дзе маліны, дзе спеюць суніцы, чаму мядзведзі любяць ласавацца аўсом, а пасечнікі вывозяць свае вуллі бліжэй да грэчкі. Толькі адно было для мяне сапраўдным адкрыццём. Аказваецца, бярозавы сок, з якога ў нас у сям'і іншы раз рабілі квас, не проста смачнае пітво, а лякарства.

Дома я нікому не расказаў, што мне цяпер вядомы сродак, каб вылечыць маці, і пачаў цярпліва чакаць вясны.

І вясна прыйшла ў наш лес. У ельнічках з'явіліся пралескі. Калі сыходзіў ранішні замаразак, у сасновым бары востра пахла вільготнай леташняй прэллю. Пранізаны наскрозь сонечнымі праменнямі, бярозавы гай пяшчотна зелянеў. Па дарозе ў школу я забягаў у гэты гаёк. Прыціснуўшы да ствала далоні, спрабаваў пачуць, як цячэ ў беластвольным дрэве яго празрыстая кроў.

Аднойчы ўвечары я непрыкметна выйшаў з хаты, узяў вядро і пабег у гаёк. У цемры, вобмацкам, спяшаючыся і хвалюючыся, зрабіў ножычкам у ствале глыбокі надрэз, уставіў у яго выструганы загадзя жалабок. Праз хвіліну-другую аб дно вядзерца звонка застукалі кроплі.

Ноччу спаў чуйна. На світанні, калі маці пайшла даіць карову, выскачыў за дзверы. Па ўчарашніх слядах прыйшоў у бярозавы гай. Ён стаяў у лёгкім тумане ціхі і насцярожаны, нібыта прыслухоўваючыся да нечага. Вядзерца было напоўнена амаль да краёў.

Я сустрэў маці на ганку з кубкам у руцэ.

---

## Паэтычная ПАВЕРКА

Алесь МАСАРЭНКА



### МІНАВІЦЫ

Мінавіцы—лясныя дарогі,
Патайныя шляхі змагароў,
Сведкі колішняе трывогі
І няроўных па сіле баёў...

Каліноўскі тарыў мінавіцы.
Мінавіцы Мінай тарыў—
І заўсёды для лютых чужынцаў
Нечаканым грозьбішчам быў.

Мінавіцамі мудрасць хадзіла,
Бальшакамі—няволі канвой...
Мінавіцы—вялікая сіла,
Калі вораг ішоў вайной.

...Беларусі зямля—
мінавіца мая.

●

Мы ўсе патроху
кут свой родны славім—
бязгорны і бязморны родны
кут...
Усё памянем:
кумпячок шыкоўны,
вязанку часнаку
і нізку верасовых скарпунцоў,
засушаных і празапас
схаваных...
І нават дзеда
ў аблавушцы віслай
і ботах-скараходах на нагах,
з маршчынамі-барознамі
на твары,
які на дзіва лоўка і заўзята
парэпанымі зяблымі рукамі
па верхаводцы ловіць уюноў...
Радкоў,
калі б услаць імі дарогу,
хапіла б аж да бацькавай
хаціны—
так славім мы
маленства мілы кут!
І водпуску чакаем
з нецярпеннем,
спадзеючыся—у каторы раз!—
наведаць незабыўныя
мясціны...
Ды зноў пашчасціла
дастаць курсоўку—
і Поўдзень усміхаецца
блакітам,
і дыхаюць марскія хвалі ў твар.

### ПРА СУМЛЕННЕ

Маё сумленне—не манета,
Яно ў кішэні не звініць...
Я абыходжу прайдзісвета,
Які хацеў яго купіць.
А ён з ухмылкаю ахвоча
Руку насустрач падае—
Сваё сумленне прадае,
Ды браць яго ніхто не хоча.

●

Восень—пагод восем:
першая—сонца,

# ЗА РАМОНКАВЫМ ВЫГАНАМ

*З вясковага сшытка*

Віктар ПОЛЯК





— ПАСЛУХАЙ, што я табе скажу, — гаварыў мне сівы, каржакаваты, як балотны корч, дзед Яўхім.—Не хадзі ты больш да яе. У яе ёсць хлопец. Які ён—не мне судзіць. Ёй відней. Кахае, бачыш, яна яго. А ты блытаешся пад нагамі, як гарбузовы повад. Ды і не пара яна табе. Ты другога параграфа. Крапчэйшага. І скажу табе—беражыся. Не шкадуеш сябе. А гэта, брат, кепска. Зламацца можаш. Зап'еш, забунтуеш. А, ды што я табе—радня, каб параду даваць, радзіць-раіць? У самога ж на плячах не качан. Варыць жа, думаю, галава твая, га? Ну, бачыш, згаворлівы. Добры ты вельмі, справядлівы, сказаць, каб усім гэта—утульна і цёпла. Гэ, так, брат, не бывае. Тоісь, канечне, бывае, ды так сабе—наўродзь кніжак. Там лоўка палучаецца. А тут вось—у жызні, не ўгадаеш, раз—і, гэта, студзёна. Скразнякі ў душы. Так і навовяць выдуць яе, бедалажную. Ды што я табе пра душу. Такія, як ты, гэта лічаць перажыткам. Ну, што яна, знацца, жыве ў нас і яшчэ пасля нас. Вечна, бачыш. Ну, не ўхмыляйся. Я так, можа, для сябе. Суцешна мне думаць пра гэта ў сваім надвячорку. Знацца, дамовіліся. Ну, яшчэ раз закурым—і ступай. Ступай і не думай. Пройдзе ўсё гэта, як дождж. І бурбалкі лопнуць. І калюгі высахнуць.

Цмокаючы цыгарку, Яўхім працягвае:

—Гэ, было і ў мяне. Толькі ж такія, як ты —не верыце. Цемната мы, бачыш. Куды нам было зведаць гэтыя, як ты кажаш, чуства. Гэ, чуства! Гэта, бачыш, як яшчэ возьме, калі яна ад мяне з вяселля, з-пад самага, сказаць, носа—шусь у сенцы і да яго. У абдымкі. Ну, суцешылі, ушчулі. Адвыкне, кажуць. Прытрэцца неяк. Змірыцца, словам. Быў малады, бачыш, здаровы—вярхняк млына адзін падымаў, каб пакаваць. А вось каб руку на яе—крый божа. А было за што. Ну, цяпер так думаю. Царствіе ёй спакойнае. Затрымаўся я, знацца, на млыне. Добра сцямнела. На ноч убралася. Іду гэта, а не мігае лучына ў акне. Пуста. Аж холадна стала ўнутры. Зайшоў у хату, узяў у сутачках падпал—раздзьмуў попел: свецяцца яшчэ жарыны. Вось і агонь загуляў. Глядзь у кут—Мікалая-ўгодніка няма. З ложка посцілка-перабіранка такжа забрата. Тут я і даўмеў. Пайшла мая Сынклета, да Мірона, знацца, пайшла. І такі мяне ўзяў халадзень, такі дрыжак—зубы лязгаюць, не стрымаць. З глузду еду, думаю. А што б твае выгалела—ды што ж гэта? Галава, як тыя жорны—кругам-кругам, і цяжкая стала—як ніжняк. Вобчым, неяк перасіліў сябе. Дагледзеў худобіну—было ж з'ежу: дзве каровы, два валы, авечак з дзюжыну.



Потым дастаў кварту—каўтнуў нішто так і пасвятлела ў душы, павяцвела. Ну, думаю, сукіны дзеці, я вам пакажу каханкі, я вам гэтыя зборыкі-цымборыкі папсую. Выйшаў на ганак—глухамань, сабака не азавецца. Адно—маладзічок прарэзваецца праз смугу. Акурат перад калядамі было. Ды марозік пашчыпвае. А хаця б ветрык шалахнуў. Жудка стала. Павярнуў у хату і на печ. Каб ложка не бачыць. Не прыйшла мая Сынклета і на другі і на трэці дзень. А мяне як агарнула, як аблажыла нечым. Несамавіты нейкі стаў. Свет закрыўся. Не вытрываў. І па цаліку, па гладзі-роўнядзі да Тамашоў—гоняў так дзвесце. Хутар іх нішто быў, аднак жа запушчаны. Гультаяватыя, бачыш, былі. Да скокаў-падскокаў—гэ, гэта яны маглі, падкія—усё роўна, як мухі на мёд. А як да ладства—загваздка. І вось да серадольшага, Мірона гэтага, так і гарнулася мая Сынклета, так і гарнулася, яшчэ з дзевак. Канечне, былі сутычкі, знацца. І дрынам неяк угаманілі адзін аднаго. Гэта я і Мірон. Бацькі памірылі-здабрылі нас. Яны кумы, бач, былі—мой бацька і Сынклецін. І так жыўцом-сілцом перацягнулі яе на мой бок. Цяпер, як падумаю, дарэмна. Бо не судзьба, бачыш, былі мы з ёю. Мірон, як усчалася калектызацыя—у актывісты падаўся, інспектарам яго выдзвінулі. Загубіў душу, небарака. Прастудзіўся і памёр. На падводзе, на мяшках з жытам. Але адхіліўся я. Гэта ж потым было. Стаў я, знацца, пад акно і гляджу. І што ты думаеш, сядзяць яны на ўслончыку, каля камінка, і так пяюць, так пяюць, аж адгалоскі па ўсёй хаце. Ён, праўда, нішто быў—чарнявы такі, як смоль валасы, а вочы гарaць-бліпічаць, як у таго ката на гарышчы. «Ой да ты, калінушка, ой да размалінушка»... Служыў, бачыш, ён на моры. І так пяюць, знацца, што мне, верыш ці не, самому захацелася падцягнуць. Так, здаецца, і галёкнуў бы—ва ўсю апору грудзей. Гэта калі яны ўжо разам на поўную сілу, на поўную, знацца, хату. І так да пазна пад акном і прамёрз. Сорамна прызнацца, але калі пачалі ўкладвацца, знацца, ложак прасцілаць і заліваць камінак — не ўпомніў, як кулак моў рэзнуў па раме. Будта газета парвалася якая. Нат болі не пачуў. Адбегся — гляжу: ззяе, як пеля ў палоцы, акно тое. Згадалі, канечне, чыя работа. Ад людскога вока нішто не схаваеш. Але знаку Тамашы не падалі. Аж покуль і не памёр Мірон. Нешта праз гады два пасля гэтага (голад быў якраз) з'явілася да мяне Сынклета. Спыталa—ці прыму. А што мне. Думай — не думай, радзь—не радзь, а жыццё—яно такое...

Ён змоўк, ніжняя губа яго прыкметна дрыжала...

●

Пра ўчастковага ўрача Аляксандра Адамавіча Дзятко ўспамінае ў сваёй кнізе «Людзі з чыстым сумленнем» П. Вяршыгара. Зразумела, што гэта адносіцца да партызанскага перыяду ў яго жыцці. І мае аднавяскоўцы наўрад ці ведаюць пра гэта. Сам Аляксандр Адамавіч не вельмі ахвочы на ўспаміны. Ён, як кажуць, жыве ў сучаснасці. А я, гледзячы на яго, акуратна апранутага, з пастрыжанай галавой («Каб не палысець на старасць»,—гаворыць ён), з шалікам, агорнутым на кволую шыю, са светлымі і бяздоннымі як неба, вачамі, зашмальцаванымі мыліцамі (некалі, яшчэ да вайны, ён перанёс трапічную язву), думаю, ці не выключэнне ты, Аляксандр Адамавіч, ці не з мінулага стагоддзя ступіў ты ў нашу бурлівую эпоху?

Ёсць у яго «Запарожац», але часцей яго ўбачыш на вазку, які цягне па ўхабістых вясковых дарогах упарцісты бальнічны конік. І такі ён спрактыкаваны, гэты конік, што толькі ўмосціцца на вазку Аляксандр Адамавіч, возьме лейцы ў рукі—як пайшоў ужо, ківаючы галавою, нібы згодны з урачом, нібы ведае, што трэба спяшацца да таго невядомага чалавека, які чакае дапамогі.

Родам Аляксандр Адамавіч з Мінска. Тут ён у 1935 годзе скончыў медыцынскі інстытут і выказаў жаданне займацца лячэбнай практыкай на Палессі. І вось з той пары—лечыць і раіць, сумуе і радуецца. А бываюць выпадкі, калі якая-небудзь бабулька, гледзячы на яго схуднелы, з апалымі шчокамі твар, занепакоена запытае: «Ці піў ты зелле, што я прыносіла табе на тым тыдні, калі прыходзіла на прыём, ці ўсё зрабіў, як казала?..»

●

Відаць, у кожнай вёсцы ёсць такая жанчына, пра якую нічога пэўнага сказаць нельга. У нас такая—Сіма. Ужо ў гадах, растуць у яе дзеці, якія не ведаюць сваіх бацькоў. Дагледзеўшы малых, накарміўшы і ўклаўшы іх спаць, яна ідзе ў клуб. Заб'ецца ў які-небудзь куточак і пазірае, як веселіцца моладзь. І ціхая ўсмешка кранае яе вусны. І столькі ў ёй невыказнага смутку, патаемнага болю, што перавесці ўсё гэта на зразумелую мову вельмі цяжка. «На бітай сцежцы трава не расце»,—сказала яна гарэзліва аднойчы і нібы надоўга задумалася над гэтым сваім смелым афарызмам.

●

Даніла Певень узгадаваў сваіх дзяцей. Пажаніў, замуж павыдаваў. І ўжо, здавалася, зжываў век са сваёй Ганнай, такой жа бяззубай і хваравітай бабай, як і сам. Потым нешта пачаў устаўляць сабе зубы. Металічныя, бліскучыя. А неўзабаве яго імя пачалі ўпамінаць разам з Нюрай-кладаўшчыцай, яшчэ даволі ўвішнай кабетай. Таму неяк не здзівіліся суседзі, калі ў Нюры нарадзіўся сын—Ігар. Даніла атрымлівае калгасную пенсію. І акуратна (усю цалкам!) аддае Нюры. А заробленыя за месяц грошы—Ганне. І так як заробак складае большую суму, чым пенсія, калі-нікалі бярэ ў лаўцы ці то дзіцячы касцюмчык, ці то кофтачку, ці то проста матэрыял—і нясе Нюры.

●

Хведар Шык працуе пастухом. А раней быў трактарыстам. А яшчэ раней загадваў жывёлагадоўчай фермай. Выступаючы на калгасным сходзе ў накуранай хаце, пры святле васьмілінейнай лямпы, ён гаварыў пра лямпачкі Ільіча, якія павінны загарэцца ва ўсіх хатах. Многія не верылі гэтаму і прымалі яго словы скептычна, нават кідалі нядобразычлівыя позіркі ў яго бок. Таму што яго словы зусім не стасаваліся з вагою працадня, пра які вялася гаворка, з тым, што некаторыя не ведаюць, як жыць далей, што трэба рабіць, каб жыццё стала лепшым...

І вось цяпер, калі ў хатах не толькі электрычныя лямпачкі, а і газавыя пліты, і прыбудоўкі да хлявоў, у якіх стаяць «ІЖы», і хлеб з магазіна,— Хведар Шык пасвіць кароў. Пасвіць таму, што калісь на сходзе ў прасторным калгасным клубе ён гаварыў пра тое, што распанелі аднавяскоўцы, не хочуць пасвіць жывёлу, і чым ісці ў суседнюю вёску наймаць пастуха, ён лепш сам згодзіцца — некаторыя скептычна ўспрынялі яго словы...

●

— Так скажу табе, чалавеча: глупства зрабіць няцяжка, цяжка перайначыць яго. І святла таго не пабачылі як след, а дубняк улажылі. Гэта ж каб на цяперашні розум, дык, пэўне, кожны б абурыўся, сказаў бы—а торф навошта, а ламачча ўсякае? А тады—як жа: электрыка свая—радасць.

І Марка Лявонаў, прыеадзісты каранасты дзядзька, з якім мы ідзём на станцыю, успамінае:

— Гэта ж з тваім бацькам, бывала, па восені мо на якую гадзіну ўбяжым у дубняк, глядзіш—па поўным кошыку грыбоў. А то, помніцца, сабярэмся, хлопцы і дзяўчаты, каля Цітавай палокі—ды хто з балалайкай, хто з мандалінай. Вот жа весялосці! А дубы—у два абхваты, а шумлівыя, а пах які... Калі ўсё гэта было, задоўга да вайны, а як сёння—чыста ў памяці. А і строй жа быў. Глядзі: як жалеза—пні. Іскры з-пад сякеры, калі на шчэпку бярэш...

І, як бы ў доказ, дзядзька спыніўся каля пня, што аказаўся паблізу, пацягнуў па яго гладкай пачарнелай паверхні сваім пазногцем, цвёрдым, як костка—хаця б знак.

— Вось я і кажу, чалавеча,—прайшоўшы добрыя гоні, зноў паўтарыў дзядзька Марка, —глупства зрабіць няцяжка.

●

У старой вялізнай хаце дэманструецца па частках кінафільм «Дзікая Бара». І раптам кадры на экране—дагары нагамі.

— Партач! Грошы набраў, а што паказваеш,—крычаць некаторыя, павярнуўшы галаву да кінамеханіка. Той не разгубіўся.

— Спакойна, грамадзяне! Чым падымаць кіпеш, перавярнулі б хутчэй экран.

Пакуль некалькі чалавек корпаюцца са звычайнай прасцінай, перавешваючы яе на цвіках, кінамеханік хуценька перакручвае стужку. Зноў уключае апарат, прыгаворваючы:

— Не разбярэцца каторы, у чым справа і крычыць, як ашпараны.—І дадае нязлобна:—Ото ж бо, дзярэўня!

●

Увогуле, кіно ў жыцці маіх аднавяскоўцаў доўга займала адно з самых пачэсных месц, было кожны раз хвалюючай і радаснай падзеяй. Ужо няма непаваротлівага куцапалага Патапа, які вечна панікаў пад вокнамі, камечачы ў кішэні рубель («Лепш махоркі ў лаўцы купіць, чым дармаеду нетрудзяшчаму аддаць»...) Ужо і не перасоўка, а сапраўдная кінаўстаноўка-стацыянар, і экран перфарыраваны, і нешта зроблена для лепшай акустыкі, і ліхтары чырвоныя гараць у час сеанса з надпісам «Выхад», і карціны тыя ж, што і ў горадзе, і дэманструюцца яны амаль кожны вечар — а вось людзей... Людзей у зале не скажаш, каб поўна.

— Тэлевізары, ведаеш, у многіх,— скардзіўся мне Аляксей Дашкевіч, утупісты, нетаропкі на слова юнак, нядаўні выпускнік Мінскага ГПТВ кінамеханікаў

...Эх, і коні ж былі ў калгасе! Масць у масць, хруп у хруп. І вылучалася з усіх, асабліва на выпасе — Бона, пародзістая рахманая Бона, каля ног якой што ні лета церлася рухавае гуллівае жарабя. Нам яна была яшчэ і тым дарагая, што раз у месяц цягнула воз, на якім, сярод бідонаў з-пад малака, скрынак розных памераў, сядзелі звычайна Патап і Насека — «кіншчык».

Бона цягнула воз, акуратна мінаючы вуглы, прама да канцылярыі. Насустрач ім на ганак, прыкульгваючы, выходзіў дзядзька Намоел, старшыня калгаса. І тут пачыналася самае хвалюючае. Бо адразу, як толькі дыпламатычна-стрымана прывітаюцца Намоел з Насекам — усчынаўся гандаль. Праўда, гэта ўжо рабілася пры «зачыненых дзвярах».

Намоел скажа: больш двухсот ніяк не магу даць, і бухгалтар — сівы Ілья Сцяпанавіч, паправіўшы на пераноссі акуляры, лясне дзвюма костачкамі на лічыльніку, як бы ў доказ таго, што гэта мяжа.

— Не дасцё 250 — паеду ў Гарадзішча! — пагражае Насека.

Мала-памалу збіраюцца людзі. Вось ужо цэлы гурт — і дзядзькоў, і жанок, не кажучы ўжо пра нас, малых.

— Былі б свае — аддаў бы. А так не... Ты паглядзі, як жывём — кожная капейка на ўліку. — Голас Намоела робіцца дрыготкім, перарывістым. Аж тут, на вуліцы, чуваць: «Ды ты чалавек, ці хто? Абабраць нас хочаш! Як табе не сорамна...»

Насека ладзіць сваё..

— Дварoў — 150. З кожнае хаты па чалавеку — 300 рублёў. Збаўляю 50. Больш не магу. План.

Бывалі выпадкі, калі Насека сапраўды не згаджаўся. Выскокваў з

канцылярыі, на хаду зашпільваючы пацёртую сумку, і, перакінуўшы яе цераз плячо, крычаў:

— У Гарадзішча, Патап!

Але гэта быў своеасаблівы ход, гульня на нервах.

Справа неяк уладжвалася.

Не трыста, а мо ўсе 870 старых і малых, умасціўшыся на дошках, на ўслончыках, зэдліках, а то і проста на зямлі, глядзелі на вялізнае белае палатно, якое чаплялася на сцяне Арыны Герцавай хаты і з заміраннем сэрца, з нейкай душэўнай прыўзнятасцю і зацятасцю чакалі, калі на ім замільгаюць першыя кадры «Сына палка», ці «Яна змагалася за Радзіму», ці «Падзення Берліна», ці «Прыгод Тарзана ў Нью-Йорку».

Дзіўна, але нейкая была залежнасць паміж кінамеханікамі і старшынямі. Так, пры Намоеле быў Насека, пры Шапірцы — Манахаў, пры Ракіцкім — Глінскі, пры Алімпе — Гайчук і г. д.

І толькі нязменным «перавозчыкам» заставаўся Патап. Аж пакуль не з'явілася ў калгасе аўтамашына. Кіно ўжо прызвычаіліся ставіць у Арцёмавай хаце. Напярэдзь «кіншчыкі» абміналі Патапа, ходзячы ўздоўж заслонаў і «абілечваючы» людзей, потым пачалі затрымлівацца і каля яго. Нарэшце Гайчук або, як нехта з'едліва ахрысціў яго — «шылам брыты» (відаць, таму, што твар яго пабіла воспа), сказаў:

— Плаці грошы, Патап.

Патап доўга корпаўся ў кішэнях, марудзіў і, пераканаўшыся, што Гайчук ад яго не адчэпіцца, устаў з услона і пайшоў да дзвярэй.

З тае пары яго месца было пад акном.

●

Неяк адразу пасля вайны ўстанавілі ў дубняку самагонны апарат, людзі па чарзе вазілі туды брагу. Вёска адбудоўвалася нанава — уцалела нешта хат 10 са 150 — і ў такой справе, як пабудова, гарэлка мела важнае значэнне.

Частым наведвальнікам апарата і, зразумела, «дэгустатарам» быў Трахім Люлька. Звычайна пасля трэцяй ці мо пятай меркі хто-небудзь з хлопцаў чарпне карцом вады з вядра і, падаючы Трахіму, пытае:

— Ну як, дзядзька, гнаць яшчэ можна?

— А то ж, саколе. Моцная яшчэ.

●

Звычайна ўлетку ў нашу вёску збіраюцца тыя, хто даўно пакінуў яе і жыве цяпер на Поўначы, у Сібіры, Далёкім Усходзе. На Поўдні з нашых, наколькі мне вядома, нікога няма. Прывозяць яны з сабою грошы. І вось, напрыклад, заходзіць у магазін Зміцер Катоў, які прыляцеў аж з самага Краснаярска (а спявак жа быў, а танцор, а на выдумкі!). З часам усё гэта збілася, але галоўнае ўсё-такі засталося — шырокая і добрая натура, прыхільнасць да землякоў...

— Ото ж бо вы гэта, дзянно, а як жа ваша здароўе, а як дзядзька, а хлопцы... — пытанні сыплюцца як гарох. І «дзянна» ўсхліпвае, расчуленая такой увагай. І хваліць яго, Змітра, за тое, што папытаў.

Бадай, толькі адна старэнькая Баброўка, якая ўвесь час туліцца дзенебудзь у куточку, незадаволена, жмурачыся, пачне:

— Ото ж, Змітрок! У людзей дзеці, як дзеці. А то сорам сказаць. Забылі, бяздушныя. Не шануюць. А што? Канечне, выгадавала, адправіла ў светдарогу. Так мне і трэба.

— Ды сціхні ўжо, — кідае ёй папрок прадаўшчыца — лагодная цётка Маня, дачка Баброўкі. — Расквакталася.

— Як жа так, цётухно? — Зміцер бліжэй падыходзіць да Баброўкі. — А Васіль, а Віктар, а Мікалай, ды і Маня вось...

— А, Змітрок... — І хусцінкай выцірае слязу. — Забылі.

Справа канчаецца тым, што Зміцер ці, скажам, Валодзя Палуян (які плавае аж да берагоў Кубы), ці Антон Кузбар (які прыехаў адтуль, куды нават рэйкі не даходзяць: трэба на аленях дабірацца) частуюць старую Баброўку «ста грамамі». І тая, пасвятлеўшы, дзякуе ім:

— Дай, божухна, вам здароўя, каб вы кожнае лета прыязджалі...

Жанкі, што стаяць побач, нязлосна заўважаюць:

— Вось жа старая, умее плесці на сваіх дзяцей. І нагаварыла як быццам многа, а падумаўшы — нічога не сказала. Чарка ж тым часам перапала.

Баброўка ажыўлена:
— Хай сабе і так.

Смялей ўмасціўшыся ў сваім куточку і счакаўшы, калі выйдуць «дабрадзеі» з магазіна, пачынае ўжо хваліць і Васіля, і Віктара, і Мікалая, і Маню, што ў гэты час завіхаецца каля прылаўка.

●

Дзядзька Арсён — таўставаты, але рухавы мужчына — ні з таго ні з сяго «праславіўся». Стаў «героем». Во так і сказалі яму хлопцы за чаркай: «Ты, дзядзька Арсён — герой. У газеце Указ прачыталі. Замачыць абавязкова трэба». І замачылі, Арсён частаваў.

Трэба сказаць, што дзядзька Арсён пакінуў вёску гадоў 15 назад, і прыязджае да сям'і з горада раз у месяц. І вось аднойчы заявіўся дамоў і гаворыць жонцы: так і так, маўляў, чалавек я цяпер знакаміты.

— А за што ж гэта, Арсён, табе героя далі? — недаўмявала жонка.

— Відаць, за партызаны.

— Дык ты ж там увесь час на кухні прабавіў...

— Ат, што ты разумееш, — адмахваўся нездаволена ён.

Хутка ўся вёска ведала пра гэту навіну. І, зразумела, пасмейвалася з Арсёна, які так лёгкадумна паверыў захмялелым хлопцам. Нат месца для помніка яму адмервалі. А вуліцу, на якой стаіць яго хата, «назвалі» вуліцай Героя. А вёску — Арсёнаўкай.

Цяпер, наколькі я заўважыў, пра гэты выпадак успамінаюць усё радзей і радзей...

●

Як толькі прыйшлі ў мястэчка немцы, стары Гелах адразу ж падаўся да іх на службу. Яму выдалі вінтоўку і патроны. Але, як сцвярджаюць мае аднавяскоўцы, ён ні разу не стрэліў з яе. Рэдка нават насіў з сабою. У яго быў другі «метад».

Запражэ каня ў сані і едзе да яўрэйскай сям'і.

— Адзявайцеся і пажывей, — звычна камандаваў ён. — Часу мала.

— А куды ж ты нас, Гелах, вязеш? — пыталі яго, калі конь тупаў уздоўж чыгуначнага палатна.

— У Каленкавічы, на прыпіску,— крыва ўсміхаючыся, шапялявіў у адказ ён.

Даязджаў да Пцічы, да загадзя прасечанай палонкі, здымаў, звычайна, у малога шапку і кідаў яе ў ваду.

— Даставай, — загадваў.

І калі той нагінаўся, каб узяць яе, піхаў малога пад лёд.

— Чаго стаіш? — звяртаўся далей да пажылога. — Ратуй дзіця!

І толькі дзядзька або жанчына падбягалі да палонкі — Гелах спрытна распраўляўся і з імі. І так — покуль на возе нікога не застанецца.

Пасля гэтага даставаў бутэльку «шнапсу» і спраўляў памінкі пад рогат немцаў, якія ахоўвалі мост праз раку і назіралі гэтыя «спектаклі».

У мястэчка вяртаўся задаволены, гарлапанячы дзікія, не ўсім зразумелыя песні.

Злавілі Гелаха ў лесе, калі ён плёўся за адступаючымі нямецкімі часцямі...

●

У апошні дзень майго адпачынку папрасіла мяне Таццяна Савіна пасабіць дровы прывезці.

— Ой бо ж, донька, у чалавека і так часу мала, а ты яго цягнеш у лес. Мо Федзька Савосік дома, клікні яго лепш, — прыгаворвала яе маці, худзенькая, сляпая на два вокі жанчынка. І, кранаючы мяне за рукаў, пажалілася:

— Тамож, Віцечка, вынялі і другое, цёмненька мне цяпер зусім стала. Вось і цябе не магу пабачыць. Ой, ды што ж я гэта табе назаляю. Донька, дзе ты?

А «донька» па-мужчынску спрытна перакідвала ўжо нагу цераз драбіны воза, наказваючы трактарысту Колю Козліку — паслухмянаму, але ветранаму хлопцу, каб моцна не гнаў трактар, а то згубіць яе, Таццяну, па дарозе.

Змяркалася, калі мы ўехалі ў лес. І трэба ж такому здарыцца: разварочваючыся каля кучкі тонкіх бярозавых і альховых жэрдачак, трактар заваліўся ў глыбокую яму.

— Удружыў, называецца. — чухаў адною рукою патыліцу, а другой — гузак на лобе Коля Козлік. — Памог, называецца. Га, Таццяно!?

— А каб цябе перарэзала, ветрагон ты няшчасны! Хіба ж табе вочы павылазілі? Куды ты ето во заехаў, га? — кляла яго Таццяна.

Пакуль мы з ёю схадзілі ў вёску, пакуль угаварылі другога трактарыста дапамагчы ў нашай бядзе — настала ноч.

Моцна раўлі трактары, глохнучы ад натугі, рваліся тросы, а Козлікаў трактар хаця б варухнуўся. «Капітальна сеў», — аўтарытэтна заключыў той, другі трактарыст.

Дровы ляжалі невялічкімі кучкамі ў розных месцах. І мы сышліся на тым, што лепш іх будзе забраць калі-небудзь повідну, а не соўгацца ў гэтай цемры.

Грукочучы пустым возам пад'ехалі да Таццянінай хаты.

— То зойдземце, вячэра зрыхтавана, — гаворыць яна нам.

— Няёмка неяк, — адказваем.— Нічога ж не зрабілі.

— А чартамаць іх бяры, сыночкі мае, не згараць. Ой, што ж табе думаецца. Гэта ж так угасіліся! Дай я памацаю. Колька, твой гузак. Ох, мне беднай. Гэта ж трэба, — нібы прычытвала Таццяніна маці. — Мо гэта той яшчэ нямецкі акоп, бо я ж добра ведаю тое месца... От, гады, дасюль спакою людзям не даюць. Сядайце за стол, мае сыночкі. Таццяно, дай Колечку першаму чарку... Ой, бо як успомню — душа рвецца. То ж і мой, пакойны, усю вайну прайшоў, цалёхенькі-неўрадзёхенькі, а тут дома събіла яму з той грэбелькі сысці, дубчык зрэзаць.... Ешце, дзетачкі мае, закусвайце. Галодныя, халодныя — што ж табе здаецца, поначы... Як бабахнула — дык сэрца маё як упала. Ажно і чую — жанкі крычаць: гэта ж твайго ўбіла. Вот немец пракляты, вот ірад накувесіўся на нашу галаву... Донька, тую не шукай у шкапчыку, я ж яе на падваконнік паставіла. Вось тут, за фіранкаю... Хай хлопчыкі вып'юць, хай будуць жывенькі-здаровенькі...

●

Пятро Войцікаў, вуглаваты, спакойны трактарыст, бацька дваіх дзяцей — былы мой школьны сябра. Праўда, сяброўства гэта працягвалася ўсяго пяць гадоў. З шостага класа Пятро пайшоў у «людзі».

У школе яго звалі «хуліган». На вуліцы — яшчэ горш: «бандыт». А была ў гэтага «бандыта» такая справядлівая душа, што і цяпер неяк цяплей становіцца на сэрцы пры ўспаміне аб тых нашых дзіцячых гадах.

Іх сям'я (сем душ) жыла вельмі бедна: бацька загінуў на вайне, а няўсыпная цётка Агапа, якая, па яе ж прызнанні, ніколі не ведала «дахтароў», хоць і тоўхалася цэлы дзень на нагах, усё ж не магла звесці канцы з канцамі.

Рана адправіўся Пятро ў «зáпадню» на заробкі. Рана спазнаў ён там другое, «лепшае», жыццё.

А яшчэ краў ён кніжкі, каб потым прадаваць іх нам за кавалак хлеба або сала. Менавіта яму я абавязаны тым, што першая кніжка, якую самастойна прачытаў у сваім жыцці, была «Віцязь у тыгравай шкуры» Шата Руставелі.

Вельмі рана да Пятра прыйшло і ўсведамленне асабістай годнасці. Калі настаўнікі купілі яму чаравікі, бо хадзіў босы ў познюю восень, і хацелі «ўрачыста» ўручыць, ён адмовіўся і ўцёк з урокаў.

І здзіўляючая дабрата.

У растаропу, калі вада змывала ўсе кладкі, ён пераносіў нас на сваіх плячах.

Аднойчы на ўроку выпадкова стрэльнула яго «пістуля», начыненая запалкавай серай, і настаўніца нямецкай мовы Браніслава Макараўна, танклявая хваравітая жанчына, рашыла пра гэтыя пятровы «фокусы» расказаць яго маці. Калі пасля ўрокаў яна накіравалася разам з намі да нашай вёскі (справа была вясной), то па дарозе здарылася непрыемнае: пераходзячы кладку, яна спаткнулася і ўпала ў ваду. Плынь была моцная і яе адразу панесла па раўчаку да ракі. Перад самай кручай ёй удалося ўхапіцца за вясло, якое падаў ёй Пятро.

Для яго ўсё ж візіт Браніславы Макараўны закончыўся не радасна. Настаўніца, не ведаючы «крутога» характару цёткі Агапы, расказала не толькі пра тое, што Пятро выратаваў яе, але ўспомніла пра яго «фокус».

Сярдзіта свіснуў пад столлю тонкі павадзец, згорнуты ў чатыры столкі, і секанўў Пятра па твары, спіне, выбіўшы з рук яго лыжку (ён якраз еў зацірку).

Трэба сказаць, што такія «выхаваўчыя сеансы» былі добра знаёмы Пятру, і ён толькі пракаўтнуў сліну, не крануўшыся з месца. Заплакала Браніслава Макараўна, і гэта вельмі ўразіла цётку Агапу, а яшчэ больш нас. І мы выбеглі з хаты. А следам за намі выйшла Браніслава Макараўна і, неяк разгублена паглядзеўшы на нас, пайшла да настаўніцы Ганны Сцяпанаўны, да якой перад гэтым заходзіла, каб пераапрануцца...

●

Мы сядзелі ў мамінай хаце і глядзелі па тэлевізары балет Хачатурана «Спартак». У перапынку паміж дзеямі гаворка зайшла пра жанок. А пачаў яе дзядзька Мікалай, наш сусед. Пачаў ён па-філасофску мудра, спытаўшы:

— Што такое жонка? — І тут жа, доўга не разважаючы, адказаў: — Абсалютна чужы чалавек. — І,хітравата падмаргнуўшы мне, пацікавіўся: — Можа ты думаеш інакш?

Да такога «строгага» вываду я яшчэ не «дакапаўся» і таму, замест адказу, расказаў наступную гісторыю...

У тую раннюю вясну я пісаў дыпломную. І кожную раніцу назіраў за двума галубамі, якія сабраліся рабіць гняздо на нашым балконе. Ён быў стары і, здавалася, што ўвесь час як бы драмаў на парэнчы. Яна ж, вёрткая і непаседлівая, пастаянна «прыбіралася»: чысціла свае пярынкі, кіпцюрыкі (манікюр наводзіць, — жартавала мая жонка).



Мал. В. ТАРАСАВА.

Мы палічылі, што лепш будзе, калі гняздо яны зробяць не проста на балконе, а ў скрынцы з-пад пасылкі. І ў іх адсутнасць перанеслі некалькі галінак, якія яны паспелі прынесці, у гэтую самую скрынку. Наша прапанова, відаць, ім спадабалася, бо адразу ж «смольна» ўзяліся за працу. Ён насіў тоўстыя галінкі, дубовую кару, яна — то саломінку, то шматок кудзелі, а больш—адседжвалася і неяк, здавалася, раўнадушна назірала за яго «будаўніцтвам».

Праз некалькі дзён я заўважыў, што яны аб нечым важным «спрачаліся». На другі дзень ён заявіўся адзін. Злосны, ваяўнічы. Мяне моцна здзівіла, што ён пачаў выкідваць са скрынкі ўсё тое, што нанасілі. І не толькі са скрынкі, а, упіраючыся хвастом у бетонную пляцоўку балкона, перакідваў праз металічныя пруты на зямлю, злуючыся, калі якая-небудзь галінка застравала і не хутка з ёю можна было справіцца...

Пад канец яго «работы» прыляцела яна. Цярпліва дачакалася, калі ён, скончыўшы ўсё, падсеў да яе. Гэта была, мяркую я, нялёгкая размова.

Потым яны сядзелі на розных канцах балкона. Потым яна, нічога не сказаўшы, таропка ўзнялася і некуды паляцела. Ён праседзеў да вечара. Што тварылася ў яго птушынай галаве — аднаму яму вядома. Нарэшце стомлена расправіў крылы і цяжка адарваўся ад балкона.

Назаўтра вярнуўся. І яшчэ паўдня прасядзеў. Я некалькі разоў падыходзіў да акна вельмі блізка, бачыў яго маленькія чорныя вочкі, якія заплывалі мутнай пеляной. Голуб плакаў.

Пад вечар ён страпянуўся, нібы адгарнуў свае цяжкія думы, некалькі мінут хадзіў па парэнчы і раптам бадзёра, узмахнуўшы крыламі, сігануў у высокі і чысты блакіт веснавога неба...

Дзядзька Мікалай закурыў, пачасаў сваю пляшывую галаву і неяк нерашуча папытаў:

— Ты гэта не прыдумаў?.

Потым, крыху счакаўшы, дадаў у роздуме:

— Не, такое, пэўне, не прыдумаеш.

І засмяяўся нечакана:

— А што — я ж гавару, што жонка — чужы чалавек.

**Праўленне Саюза кампазітараў БССР выказвае глыбокае спачуванне кампазітару, народнаму артысту БССР Анатолю Васільевічу Багатырову з прычыны смерці яго маці.**



— Прасолены, што селядзец. Не баіцца нічога.

Лодка абагнула востраў, Даніла Якаўлевіч заглушыў матор, ціха падплыў да калка, што тырчэў з вады, вывалак яго ў лодку, а разам з ім і рукаў круглай, на абручах, сеткі, якраз як тая, павезеная ў мора Кутчыевым.

— Можа сёмужка на вячэру трапіла...

Агледзелі і адзін закол і другі: сёмгі не ўзялі ніводнай, некалькі камбал ды харывус. Паплылі далей.

Адліў яшчэ не кончыўся, рыбакі чакалі зваротнага ходу вады, прыліўнога: выкінуты цяглавы невад павінен быў сесці грузам на самае дно, глухой сцяною мярэжы адгарадзіць залоўленую рыбу ад мора. На тоні, аднак, рыбакоў не аказалася, акрамя брыгадзіра Грыгорыя Паўлавіча Кутчыева — ён адзін стаяў у лодцы пасярод губы, над невадам, вухам лавіў кожны падводны шоргат. Дзве пустыя заякараныя лодкі відproperties трохі воддаль.

— Чай дзе-небудзь ля касцярка папіваюць,— здагадаўся Дзмітрыеў.— Невад выкінуць, самі на бераг чаёўнічаць.

— А брыгадзір?

— Яго вока на вадзе заўсёды.

Мы таксама паставілі лодку на якар, сышлі ў ваду, з яе — на сухое. Убачыўшы, напэўна, нас, па той бераг, як з-пад зямлі, выраслі тры постаці ў ружовых рыбацкіх роканах. Сышлі да лодкі, паднялі якар і пачалі веславаць у наш бок.

Яшчэ з гадзіну ўсе разам мясілі мяккае марское дно, пакідаючы на ім сляды сваіх ботаў. Вецер мацнеў, халадала, грэліся хто як мог — адзін топаў нагамі, другі хлопаў рукамі, а пажылая, гадоў пяцідзесяці, рыбачка Аляксандра Яфімаўна Дзмітрыева саграваласябе і ўсіх нас гаворкаю:

— Вада сёйдзень нявыпадка. Быстра спадае.

— Марапу чуе, — сказаў брыгадзір, таксама падплыўшы.

— Вось-вось задуе север. А сёйдзень запад... Паміж шалонікам і пабярэжнікам. Хвалі вялікай не дае, ды халодны. Пабярэжнік, той норавам іншы. Дзьме пылка, нервенны, ды не свірэпы.

— Пабярэжнік, слава богу.

— Грыгорый, пры якім ветры твой зяць накрыўся морам? У сорак сёмым...

— Шалонікам. Рыбы пры ім мала, страху многа. Зарыфлены парус паставілі, а ёлачка малая, за дорку меньшая.

— Трэба са штапаком ісці. Хоць малы парусок, ды задзёрнеш стрэч ветру,— разважыла рыбачка.— Нялёгка, праўда, па касіне, але даплывеш, як прыпячэ.

— Трое тады нашых загінула. І зяцёк мой, і пляменнік. З усіх адзін жывы застаўся. Двое сутак насіла па моры.

— Рыбка, яна не салодкая. Самі ловім, самі топімся.

— Бацька так казаў: рыбу стране, грошы жане, сам — носам у хвалю.

— Цяпер у Белым і рыбка не тая.

— Вось у пяцьдзесят пятым, — згадаў Грыгорый Паўлавіч,— я адной тоняю трыццаць тон сельдзі залавіў. —Ён зірнуў на мора, сунуў рукі ў мокрыя брызентавыя рукавіцы.

— Ну, арлы, цягнем. Дай бог рыбаку рыбы, мору цяпла.

Надышоў момант, беспамылкова ўлоўлены вопытным вокам брыгадзіра, калі вада ўжо не спадала болей, сышоўшы на самы нізкі ўзровень, яшчэ і не прылівала, задумалася, прылівацьці пачакаць, і ў гэты момант канцы невада знялі з заколаў, пацягнулі на бераг. Снасць адразу ж пайшла цяжка, усё роўна як мора завaліла яе камянямі, і Грыгорый Паўлавіч першы зразумеў гэты цяжар— вочы і рухі выдалі яго радасць. Здаровы, ружовы, прыпухлы, як у малога дзіцёнка, твар не меў амаль ніводнай маршчынкі, цяпер і зусім памаладзеў, сабраны на адной думцы, адной векавечнай страсці.

— Ты не рві, не рві снасць. Паціху,— супакойваў ён маё старанне.— Вось так... Рыбак на пуп усё жыццё бярэ, ды рваць пуп яму не дазволена. Сарве—і мора прагоніць на печ. Чаму я во і стары, а цягну, як маладая Яфімаўна, — пажартаваў ён. — Усё жыццё рваўся, пуп бярог. Трэба з напорам, але плаўна. Гэтак мора робіць і нас, дурняў, вучыць. Хапайся, ды не насмерць...

Сетка шаргацела па цыратовых робах, круглыя шкляныя кухтылі адзін за адным вынырвалі з вады. Мне дзіўна было глядзець, як Аляксандра Яфімаўна, ускінуўшы канец вяроўкі на спіну і ёмка ўпіраючыся нагамі ў топкае марское дно, вяла на ім і трапяткі невад і мужыкоў у чарадзе. Нягледзячы на гады, якімі была тут маладзейшая хіба за Грыгорыя Паўлавіча, здавалася жывейшаю за астатніх, цягнула невад упарта, ледзьве хілячыся то ў адзін бок, то ў другі—адчувалася і сіла ў руках і кемнасць рыбацкая. Ні ў чым яна не ўступала мужыкам і потым, калі з вады падымаўся куцец з жывым грузам, калі належала выбраць не адзін невад, але і зіхаткіх таўстых сігоў, грузіць імі лодку. Рыбацкай увішнасцю, здагадлівасцю нават апярэджвала мужыкоў, маючы і жаночую зграбнасць, і мужчынскую хвацкасць. Уменне здабылося працай: з пяці гадкоў таксама хадзіла ў Баранцава зуйком, сотні разоў, нароўні з мужыкамі, змагалася са штармамі, не аднойчы выводзіла з-пад мёртвага вала сваю ёлу, улетку і ўзімку, здаралася, плавала дагары кілем, вось выжыла, не разлучылася і пад старасць з морам, невадам. У моры і з Грыгорыем Паўлавічам сышлася, такім жа прасоленым рыбаком. Другі раз выйшла замуж і ўжо з ім напару лавіла селядцоў ды сігоў.

Вечарэла. Хаваліся ад вачэй далягляды, шэрая вада блішчала на ўсю далечыню наўкола, быццам тапіла пад сабой і лясы, і берагі, і каменні.

У вёску вярталіся на цяжкіх, заваленых сігамі, баркасах. Прычаліўшы да каменнага пірса, вынеслі на бераг мокрыя сеці, кінулі іх на вешалы, у аграмадныя кашы пачалі выбіраць рыбу. А ў мора адсюль, з бухты, адпраўлялася другая рыбалавецкая брыгада — адны жанчыны.


Тут пачынаецца Белае мора...

— Даніла, матор у нас глохне. Ты паглядзеў бы,—папрасілі калгаснага старшыню рыбачкі.

— Рана здаваць пачынаеце, бабкі. Яшчэ рыба ўся ў моры, а вы ўжо на матор ківаеце.

— Не жартуй, Даніла. Праўда.

— Дык можа на сваім адбуксіраваць?

Замоўклі, не ведаючы, што сказаць. Знайшлася самая маладзейшая:

— Я, напрыклад, твайму матору не даверуся.

Зноў зарагаталі.

— Ды не скаль зубы, Варка! І ты, Даніла,— усіх адразу абсекла з кармы лодкі жанчына ў рабой хустцы і чорным кажушку.— Тут сур'ёзна вырашаць трэба.

— А што вырашаць? Не варта нас буксіраваць. На вёслах берагавіком дабярэмся. Лепей сустрэнь, Даніла. Штарміць пачынае.

— Можа б і не вымётвалі?

— Паглядзім па пагодзе. Хоць заколы праверым.

І чаму, думаў я, прысеўшы ўгары на вешалы, у дурныя ранейшыя часы вось гэткіх жанчын не лічылі за «жывыя душы»? Хіба яны былі менш мужныя, чым мужчыны? Ніколечкі. Магчыма — наадварот. Цягнуць нароўні з мужчынамі там, у моры, а потым яшчэ і дома—гаспадарка, дзеці... Што вы скажаце на гэта, Даніла Якаўлевіч? Пытаюся ў яго, ён разводзіць рукамі:

— У Паньгоме кожная жанчына рыбачка. Ды і хто б лавіў, калі б не яны, руплівіцы. Маладзейшыя мужчыны з траўлерам у Баранцавым, а беламорская рыбка на іхніх плячах.


Аляксандра Яфімаўна — рыбачка як усе: удзень — у моры, увечары — ля самавара.

Фота аўтара.

Нашу кароценькую размову, мабыць, пачула Аляксандра Яфімаўна — уздыхнула сама сабе, выбіраючы з баркаса ўлоў, ціха прызналася:

— Я карова, я і бык, я і баба і мужык.

І першы раз за сённяшні дзень засмяялася.

— Ты чаго там? — спытаў старшыня.

— Ды, так сабе. Успомніла, як раней у нашай Паньгоме казалі...

## ЗА ШЫПУНОМ-САМАВАРАМ

Вячэралі позна. З рыбай, вядома: свежымі сігамі, камбаламі... Знайшлася і сёмужка.

— Цяпер яе мала,— прызнаваўся гаспадар.—Летась усім калгасам здалі сто пяцьдзесят кілаграмаў.

— Яе заўсёды мала было. Рэдкая рыба,— заўважыла жонка Марыя Антонаўна.

— Усё ж... Калісьці тонамі здавалі...

— Усё жывое мае свой лёс, як і чалавек, — уздыхнула Марыя Антонаўна.— Бывае лепшы, бывае горшы. Жыццё ва ўсіх пераменлівае.

— Асабліва ў рыбака,— пагадзіўся гаспадар.—Ці шмат там у вас рыбы? Ёсць сёмга? — раптам спытаў ён.

— Сёмгі няма, але ёсць вугар.

— Вугар і ў нас сустракаецца па азёрах. І дзе ён там у вас? Як ловіце?..

І я расказваў пра Нарач, нарачанскага вугра, пра тыя ночы на возеры, калі і мне давялося цягаць падвалокі ў брыгадзе славутага нарачанскага рыбака Міколы Варанца.

За вячэрнім акном пакаціліся прыпеўкі:

**Не пойду в Поньгоме замуж,**
**На губе сельдей ловить,**
**Выйду я в Кеми за дроля,**
**Буду барыней ходить...**

На душы адразу павесялела пасля ўсіх думак, прасцейшым і ўтульнейшым зрабіўся свет.

**Раскачайте-ка повыше,**
**Хочу море повидать,**
**Не пойдёт ли мой хорошенький**
**По бережку гулять.**

— Можа, Надзя дроля шукае? — спытала гаспадыня.

— А можа масквічкі. Тут прыехалі маскоўскія мастачкі. Паньгому малююць. Спадабалася. Песні паморскія паразвучвалі...

**Это лето — не два лета,**
**Как-нибудь переживу,**
**Придёт миленький мой с моря,**
**Всю обиду растоплю.**

**ВЦСПС І САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ СССР**

**ПРАВОДЗЯЦЬ**

**УСЕСАЮЗНЫ АДКРЫТЫ КОНКУРС**

**НА ЛЕПШЫ ТВОР МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ**

**ПРА СУЧАСНЫ САВЕЦКІ РАБОЧЫ КЛАС**

На конкурс прымаюцца раманы, аповесці, мастацка-дакументальныя творы, у якіх на высокім ідэйным і мастацкім узроўні паказаны гераічны рабочы клас як перадавая, вядучая і стваральная сіла ў барацьбе за пабудову камуністычнага грамадства, дадзена глыбокае адлюстраванне таго, як пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі цяперашняе пакаленне рабочага класа дастойна працягвае слаўныя рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі сваіх бацькоў і братоў, удзельнікаў Вялікага Кастрычніка, выдатных энтузіястаў першых пяцігодак, адлюстраваны багаты свет памыслаў і дзеянняў сучаснага савецкага працаўніка, які валодае шырокімі тэхнічнымі ведамі, вялікай культурай, сапраўды гаспадарчым падыходам да спраў дзяржавы, мужнага барацьбіта за свабоду, мір і шчасце ўсяго чалавецтва.

**За творы, якія журы прызнае лепшымі, прысуджаюцца прэміі:**

**першая — 5 000 рублёў;**

**дзве другія—па 2 500 рублёў кожная;**

**тры трэція — па 1 500 рублёў кожная.**

*Рукапісы прадстаўляюцца ў рабочую групу журы конкурсу (Масква, К-9, Пушкінская вуліца, д. 1/6, Дом саюзаў, пакой 32, з паметкай «На літаратурны конкурс») да 1 студзеня 1972 года ў двух экземплярах, напісаных на машынцы. Аб'ём рукапісаў не абмяжоўваецца.*

На конкурс, апрача рукапісаў, прымаюцца таксама новыя творы, апублікаваныя ў перыядычным друку або выдадзеныя кнігамі ў 1970 і 1971 гг. Кнігі і часопісныя публікацыі прадстаўляюцца ў двух экземплярах.

Творы, напісаныя на мовах народаў СССР, прадстаўляюцца на конкурс у перакладзе на рускую мову. На конкурс, апрача рукапісаў, прымаюцца творы, апублікаваныя за час конкурсу на роднай мове, якія яшчэ не выходзілі на рускай мове.

Разам з рукапісам (кнігай, часопіснай публікацыяй) аўтар прысылае ў журы кароткія звесткі пра сябе і сваю творчасць:

а) прозвішча, імя і імя па-бацьку,

— Не, паньгомскія дроляў сваіх чакаюць. З Баранцава. Там жа наш МРТ, траўлер, з хлопцамі.

Прыпеўкі звонка сыпаліся-перакатваліся пад самымі вокнамі, ляцелі да скалістага берагу, да мора, потым цішэлі, як раставалі за шэрымі вокнамі, і адразу мацнела на нашым стале песня меднага шыпуна-самавара, сагрэтага не ад электрычнай разеткі, як пайшло ў моду, а бярозавым вугаллем. Утульна пахла тонкім самаварным духам, смажанай рыбаю, свежымі пірагамі.

— Песні ў нас працяжныя,— закручваючы кранік над шклянкаю, кажа Марыя Антонаўна. — Бывала, едуць хлопцы і дзяўчаты з сенакоса, песні іхнія ў вёску ляцяць, у кожнай хаце чуваць. Быццам во, блізенька ўжо. Тут маткі паўсхаджваюцца: ах, забылі самавары паставіць... Нальюць іх, хапаючыся, распаляць, чакаюць... Песні блізка, ды нікога не відаць. Самавары патухнуць, астынуць, іх усё няма. Зноў пачынаюць распальваць... Песня ў скалах ды на моры дужа плыткая. Скажы не, Даніла?

— Ваша бабская забава.

— Для каго іх катаем, як не для вас? Каб вам лягчэла.

— Нам лёгка. Маладым мяне тут лічаць, а гэты малады яшчэ ў дваццаць восьмым годзе з бацькам выйшаў у Баранцава мора. Да калгаса яшчэ. У бацькі ёла свая стаяла. Быў лепшым рыбаком на беразе.

— Колькі ўжо стажу? — спытала жонка.

— А вось лічы...

— У вайну сем год не рыбачыў.

— Вайну — на вайне. У трыццаць дзевятым пайшоў, у сорак шостым вярнуўся. Адразу сеў на ёлу. Потым механікам. Дзесяць гадоў хадзіў у Баранцава. Бралі рыбу сецяным ловам, ярусным, дрыфцерным. На МРТ механікам плаваў. Хацелася калгас падняць. А людзей не хапала. Сам і за механіка, і за капітана, і за рыбака... Адзін. Што аднаму можна? І якар не выкатаеш... Хадзіў на Кандалакшу, вышай. Усякае бывала і са мною, і з іншымі. Памятаеш, Марыя, Іван Філіпавіч Дзмітрыеў суткі трымаўся ў Баранцавым у верасні. Голым пузам на снежнай вадзе... На ёле рыбачылі, маладыя хлопцы і ён, стары чалавек. Шторм. Абрэзалі ярус, не памагло. Ураган лёг на парус, яны ўгару кілем. Развіталіся і на дно. А старога мора не прыняло. Суткі насіла па ледзяной вадзе, карабель падабраў. У Мурманску сустрэў яго, памятаю... Сам я прыплыў туды з матабота, паламаную руку прывёз у шпіталь, і ён там...—Гаспадар зусім нечакана замоўк, як нешта іншае ўспомніў, зірнуў у акно, апусціў шклянку з недапітым чаем на стол.— Ну, жонка, мне трэба ў мора.

Даніла Якаўлевіч падняўся з-за стала.

— Што надумаўся?

— Там дзеўкі на вёслах. Абяцаў маторам прыцягнуць.

Марыя Антонаўна ні словам не запярэчыла мужу, падала яму цёплы, сагрэты ля грубачкі світэр, ватоўку, шапку. Даніла Якаўлевіч моўчкі апрануўся, усцягнуў на ногі боты і выйшаў за дзверы ў цёмную ноч.

(Заканчэнне ў наступным нумары).

ку, літаратурны псеўданім (калі ёсць);

б) ці з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў СССР, Саюза журналістаў СССР;

в) прафесія;

г) апублікаваныя літаратурныя творы (якія, дзе, калі);

д) хатні адрас і тэлефон.

Вынікі конкурсу падводзяцца праз кожныя два гады да 1 мая— Дня міжнароднай салідарнасці працоўных і публікуюцца ў газеце «Труд», «Литературной газете», а таксама ў органах друку Саюза пісьменнікаў саюзных рэспублік.

**Творы, адзначаныя прэміямі, выдаюцца Прафвыдатам і выдавецтвам «Советский писатель» у першую чаргу і масавымі тыражамі.**

**ПРАФВЫДАТ.**

*ПАМФЛЕТ*

Анатоль СТУК

# БУЛЬБА, КАПУСТА І ГАЗЕТА «ГЕНЕРАЛЬАНЦАЙГЕР»

ЗАХОДНЕГЕРМАНСКАЯ газета «Генеральанцайгер», якая спецыялізуецца на фабрыкацыі рознага роду антысавецкіх фальшывак і набыла ў гэтым ужо немалы вопыт, рашыла парадаваць сваіх чытачоў чарговай сенсацыяй. Яна змясціла паведамленне, што нібыта ў некаторых гарадах Савецкага Саюза і, у прыватнасці, Мінску праходзяць забастоўкі. І, канечне, як робіцца ў такіх выпадках, газета не забыла зазначыць, каб надаць важкасць свайму «адкрыццю», што гэтыя звесткі атрыманы з надзейных крыніц.

Калі мець на ўвазе той факт, што найбольш выпрабаванымі і стойкімі падпісчыкамі газеты з'яўляюцца адстаўныя чыноўнікі часоў трэцяга рэйха і праўлення Конрада Адэнаўэра, а таксама многія з былога воінства фюрэра, каму ўдалося ўцалець, то трэба меркаваць, што такое паведамленне было разлічана на тое, каб падтрымаць дух гэтай асобай катэгорыі чытачоў, суцешыць і падбадзёрыць, што яшчэ не ўсё страчана, што, маўляў, у самім савецкім грамадстве спее незадавальненне.

У гэтым выпадку, паводле сцвярджэння газеты, яно выклікана тым, што ў многіх савецкіх людзей цяпер ёсць халадзільнікі, але яны пустуюць, няма, маўляў, бульбы і капусты. І яшчэ, вось ужо на працягу некалькіх месяцаў не завозяцца цытрусавыя. У сувязі з гэтым нярэдка сям-там узнікаюць дыскусіі, удзельнікі якіх разганяюцца міліцыяй. Вывад, да якога прыходзіць «Генеральанцайгер», такі: савецкая сістэма забеспячэння не апраўдала сябе, і ёсць усе падставы меркаваць, што гэта пытанне ўзнікне на маючым адбыцца XXIV з'ездзе КПСС.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што на старонках «Генеральанцайгер» час ад часу з'яўляюцца паведамленні, накшталт гэтага. Было б хутчэй незразумелым, каб газета змяніла свой ранейшы кірунак і пачала даваць аб'ектыўную інфармацыю пра Савецкі Саюз.

Маю ўвагу, шчыра кажучы, прыцягнула зусім іншае—убоства і абмежаванасць фантазіі супрацоўнікаў рэдакцыі. Наколькі я разумею, газеце патрэбна не проста сенсацыя дзеля сенсацыі, а такая сенсацыя, якая б усяляла ў аслабелыя духам душы нейкую надзею, няхай сабе ілюзорную, але ўсё ж надзею. З гэтай прычыны я аніяк не магу даўмецца, чаму менавіта ўзята стаўка на бульбу і капусту. Мне здаецца, што тут рэдактарам зроблены пэўны пралік, нешта не ўсё як мае быць прадумана. Ну, яшчэ ўзяць, скажам, цытрусавыя. У Беларусі яны не вырошчваюцца.

А вось, што датычыць бульбы, гэта ўжо іншы каленкор. Той, хто меў магчымасць у маладыя гады пабыць у легіёнах заваёўнікаў рускіх пастораў, можа ўсумніцца. Дальбог можа. У сувязі з гэтым, мне хочацца нагадаць такі выпадак. Нашы хлопцы з партызанскай брыгады Заслонава недзе ў лістападзе 1943 года падбілі на адрэзку дарогі Талачын—Орша машыну, у якой ехаў афіцэр з карнага атрада. Добра цяпер не памятаю, але, здаецца, з таго самага, што ўзначальваў Дзірлевангер, які спаліў немала беларускіх вёсак, у тым ліку і Смальяны. Афіцэр не паспеў выскачыць з машыны, як напаткала яго партызанская куля, а вось партфель, набіты рознымі паперамі, хлопцы прыхапілі з сабой. Дык вось у ім аказаўся такі дакумент. Афіцэр у сваім данясенні, якое адрасавалася канцылярыі гаўляйтэра генерал-лейтэнанта СС Готберга, выказаў такую думку: ці не варта прыняць захады, каб знішчыць пасевы бульбы, не кажучы ўжо пра жыта. Іх карны атрад зрабіў такі эксперымент: спаліў датла некалькі вёсак з усімі пажыткамі сялян, спадзеючыся на тое, што, аказаўшыся ў такім становішчы, яны доўга не працягнуць.

«Зыходзілі мы з таго, — тлумачыў афіцэр,—што трэба эканоміць кулі, якія і так абыходзяцца дорага нашай дзяржаве і фюрэру. Праз нейкі час мы вярнуліся назад—і, о, майн гот!— усіх засталі жывымі. Яны пасяліліся ў зямлянках. Высветлілася, што насельніцтва гэтых вёсак мела вялікія запасы другога хлеба, як тут называюць тую самую бульбу, што і ў нас любяць. І хаваюць яны яе ў вялікіх буртах ці склепах. Запасы такія, што яны дзеляцца лішкамі з партызанамі».

Думаецца, што таго, хто пабываў на Усходзе, асабліва ў скуры карнікаў, наўрад ці падбадзёрыш бульбянымі забастоўкамі. Для некаторых з іх, выходзіць, беларуская бульба з'явілася неадольнай перашкодай на шляху да пакарэння насельніцтва на часова акупіраванай тэрыторыі.

На маю думку, рэдактару «Генеральанцайгер» у далейшым усё ж трэба быць больш асцярожным. Канечне, пры той патрэбе ў сенсацыях, якая іншы раз так неабходна для падтрымання прэстыжу і трывала заваяванай «рэпутацыі» газеты, за ўсім сам не дагледзіш. Тым не менш, не грэх іншы раз, відаць, зазірнуць і ў перыядычны савецкі друк, а калі ёсць апасенні, што можна не ўстаяць перад савецкай прапагандай, то лепей мець пад рукой даведнік. Там адны толькі лічбы і аніякай прапаганды. Паколькі адразу, відаць, яго не дастанеш, то я на ўсякі выпадак, як даведку, магу прывесці некалькі лічбаў. Магчыма, яны зацікавяць пана рэдактара. Падкрэсліваю, браў іх з даведніка. Пасевы бульбы ў Беларусі складаюць 0,5% ад пасеву гэтай культуры ў СССР, а валавы збор складае 14,6%. Значыць, ва ўсім Савецкім Саюзе па вытворчасці гэтай культуры рэспубліка мае яўны прыярытэт.

Падумалася, ці не атрымалася так, што той, каму пан рэдактар даручыў адказнае і ганаровае заданне —падрыхтаваць чарговы антысавецкі пасквіль для газеты, натрапіў на збуцвелы падручнік часоў пятроўскай эпохі, у якім расказваецца пра бульбяныя бунты, што ўзнікалі ў некаторых месцах Расійскай імперыі, калі цар вырашыў сілком прывучыць вырошчваць «чортаў яблык», як называлі незадаволеныя сяляне бульбу.

І ўсё ж, мне здаецца, лепей і больш падстаў было ўчапіцца за халадзільнікі. Нешта я не толькі не бачыў, каб у нашых халадзільніках былі адсекі для захавання бульбы, але і не чуў, каб нават і гаворка пра гэта ішла. Выходзіць, адсталі. Я адношу гэта на кошт «кансерватызму» канструктарскай думкі на Мінскім заводзе халадзільнікаў, дзе, відаць, не ацанілі апошнія навінкі Захаду. Сваімі меркаваннямі я рашыў падзяліцца з міністрам гандлю БССР Васілём Канстанцінавічам Яўцешыным. Той здзіўлена паглядзеў на мяне.

— Якія гэта яшчэ бульбяныя адсекі ў халадзільніках?

Прыйшлося расказаць пра неспакой, які выказвае «Генеральанцайгер» наконт бульбы ў Мінску і іншых гарадах Савецкага Саюза.

— Вось яно што!—палагоднеў міністр. — Няхай сабе пан рэдактар гэтай газеты і яго калегі арыентуюцца на адсекі ў халадзільніках для захоўвання бульбы і капусты. Мяне ж турбуе зусім іншае — будаўніцтва новых бульбасховішчаў, бо калі будзе атрыманы такі ўраджай, як абяцаюць калгаснікі, то са старымі не абыдзешся. Летась усё абышлося добра, хоць, я вам скажу, калгаснікі задалі нам нялёгкую задачу. Памяркуйце самі, атрымана бульбы на 228 тысяч тон больш, чым калі-небудзь. Так што назапасілі ўдосталь —у гэтым няцяжка пераканацца—варта толькі пабываць у магазінах, ды і прадалі ў іншыя рэспублікі больш, чым калі-небудзь. Вось цяпер вядзём перагаворы з гандлёвымі арганізацыямі Ленінграда і некаторых іншых гарадоў, колькі яны змогуць сёлета ў нас закупіць. Як вядома, раней Ленінград у нас браў вельмі многа бульбы. Летась калгасы расшырылі пасяўныя плошчы. І нам прыйшлося ўстанавіць больш цесныя кантакты з Малдавіяй і Крымам. Вось такія справы. Ды і за цытрусавыя няхай пан рэдактар «Генеральанцайгера» не хвалюецца. Пакуль у нас няма скаргаў, што іх не хапае. Вось і нядаўна завезлі яшчэ.

У час сваёй размовы з міністрам я зразумеў, што і тут, відаць, па-сапраўднаму не ацанілі ўсе перавагі халадзільнікаў з адсекамі для захавання бульбы. Дзіва што які-небудзь наш турыст-моднік, які ўбачыў такую навінку на Захадзе, мог учыніць скандал дзе-небудзь у магазіне з-за таго, што не можа прыдбаць такі агрэгат, Але ж магазінаў у горадзе многа і не так лёгка ўдакладніць дзе магло такое здарыцца. Пэўна ж, у міліцыі ведаюць, тым больш, што, як сведчыць «Генеральанцайгер», ёй даводзілася, «разганяць» бульбяныя і капусныя бунты.

Начальнік Упраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкома Віктар Піскароў не менш, чым міністр, быў здзіўлены, калі я завёў гаворку пра забастоўкі і хваляванні. Давялося зноў жа тлумачыць, у чым справа.

— Чорт ведае што!—усклікнуў ён. — Да чаго ж спрытныя і ахвочыя гэтыя зарубежныя пустабрэхі на розныя выдумкі.

Камісар міліцыі зняў тэлефонную трубку, набраў патрэбны нумар і папрасіў зайсці да яго ў кабінет дзяжурнага з кнігай, у якой вядзецца ўлік усіх здарэнняў у горадзе.

— Так, так,—гаварыў ён, перагортваючы старонкі міліцэйскага гросбуха, — зараз паглядзім, што здарылася ў тыя дні, пра якія шматзначна намякае «Генеральанцайгер». А лепей вазьміце, ды і самі пазнаёмцеся, — звярнуўся ён да мяне. — Наколькі я памятаю, наўрад, ці што цікавае для газеты знойдзецца.

Я ішоў ад начальніка гарадскога аддзялення міліцыі, і ў мяне не выходзілі з галавы яго словы: да чаго ж спрытныя гэтыя зарубежныя газетчыкі! Я падумаў, паспрабуй, не будзь спрытны, калі ад гэтага залежыць—быць ці не быць газеце.

Мне прыгадаўся з дарэвалюцыйных часоў самаахвярны ўчынак рэдактара пецярбургскага «Синего журнала» Васіля Рэгініна. Выданне, якое ён рэдагаваў, было напярэдадні краху. Каб прыцягнуць увагу публікі да свайго часопіса, ён даў аб'явы, што ў такі-та дзень увойдзе ў клетку да тыграў. Ён так і зрабіў на вачах ашаломленай публікі і не менш ашаломленых тыграў. Пра гэты выпадак расказаў К. Паустоўскі ў сваёй «Повести о жизни».

Вядома, не ў кожнага рэдактара хопіць мужнасці і рызыкі на такі ўчынак, як у Рэгініна. Рэдактар «Генеральанцайгер» выбраў іншы шлях, каб ашаламіць сваіх чытачоў, не рызыкуючы сваім асабістым жыццём. Ну што ж, хто на што здатны.

Адным магу суцешыць рэдактара «Генеральанцайгер», ён, напэўна, мае рацыю, што на XXIV з'ездзе КПСС безумоўна будзе весціся гаворка не толькі пра далейшае павелічэнне вытворчасці прамысловай прадукцыі, у тым ліку тавараў народнага ўжытку, але і пра далейшае ўдасканаленне гандлю і забеспячэння савецкіх людзей усімі неабходнымі таварамі. Гэты клопат быў заўсёды і застаецца адным з першарадных ва ўсёй палітыцы нашай партыі.

*ВОДГУКІ. АДКАЗЫ*

## «ВЫЙСЦЕ ТРЭБА ШУКАЦЬ»

**Пад такім загалоўкам у нашай газеце за 18 снежня мінулага года было надрукавана пісьмо навучэнца Мінскага кааператыўнага тэхнікума П. Капчыка. У ім указвалася на шэраг недахопаў у падрыхтоўцы таваразнаўцаў па кнізе, у прыватнасці, на тое, што яны канчаюць навучальную ўстанову з вельмі малымі ведамі па беларускай літаратуры. Намеснік старшыні праўлення Белспажыўсаюза Г. Фокін паведаміў, што выступленне было абмеркавана на нарадзе выкладчыкаў і навучэнцаў тэхнікума. Выпрацаваны мерапрыемствы па далейшым удасканаленні падрыхтоўкі спецыялістаў кніжнага гандлю.**

**Кабінет таваразнаўства і арганізацыі кніжнага гандлю тэхнікума папоўнены новым абсталяваннем, інвентаром, інструментамі, нагляднымі дапаможнікамі, літаратурай, тэхнічнымі сродкамі навучання і да т. п.**

**З другога семестра 1970-71 навучальнага года павялічваецца колькасць гадзін на вывучэнне сучаснай беларускай літаратуры з чатырох да дваццаці, а таксама час на вывучэнне беларускай мастацкай літаратуры па курсе «Таваразнаўства кнігі».**

**Намечана правесці шэраг сустрэч навучэнцаў з беларускімі пісьменнікамі, кампазітарамі, мастакамі, работнікамі кніжнага гандлю. Студэнты будуць часцей наведваць мастацкія, кніжныя і іншыя выстаўкі.**

**Перад упраўленнем навуковых устаноў Цэнтрасаюза пастаўлена пытанне аб выданні падручніка па сучаснай савецкай літаратуры для ўсіх кааператыўных тэхнікумаў і вучылішчаў, якія рыхтуюць прадаўцоў і таваразнаўцаў па кнігах.**

